23 чэрвеня 2017 | № 24 (538)

Новы час

novychas.by

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

**Эдуард Вайніловіч: «Свой сярод чужых, чужы сярод сваіх»**
стар. 11

**5 СТРАТЭГІЯ ПРАДУХІЛЕННЯ МАЙДАНА**

Што і як рабіла ўлада для прадухілення Майдану ў Беларусі? Чаму ў еўрапейскіх краінах народныя выступы не выклікаюць такой шалёнай, нават істэрычнай рэакцыі, як у Беларусі?



**6–7 ВЯРНУЦЬ КУРАПАТЫ Ў СВЯДОМАСЦЬ, КАБ ВЫЦІСНУЦЬ РАБА**




Курапаты — месца, якое можа абяднаць беларусаў дзеля будаўніцтва дэмакратычнай і квітнеючай Бацькаўшчыны. Народны мемарыял стане своеасаблівым беларускім Майсеем

**9 МАКРОН — НЕ МІТЭРАН**



**10 ЗАГАДКА ДАВІДА КЕЙМАХА**

Чаму імя камуніста, разведчыка, ардэнаносца Давіда Кеймаха вы не знойдзеце ні ў адной савецкай энцыклапедыі, прысвечанай Вялікай Айчыннай вайне?

# Ціхая нацыянальная рэвалюцыя

## Ці стане Дзень Волі ў наступным годзе дзяржаўным святам?



Сяргей ПУЛЬША

Афіцыйны Мінск прарвала. Пакуль не ўвесь, а асобных чыноўнікаў. Пакуль не поўнасцю і не на дзяржаўным узроўні. Выглядае, у іх нарэшце прарэзалася ўсведамленне каштоўнасці беларускай гісторыі, мовы і культуры. Таго, з чаго складаецца ідэнтычнасць нацыі.

У мінулым нумары мы пісалі пра Ігара Бузоўскага. Кіраўнік адміністрацыі Цэнтральнага раёна сталіцы, былы галоўны ідэолаг, экс-кіраўнік БСРМ выказаўся за пашырэнне беларускамоўнага навучання, беларускамоўнага справаводства і станоўча ставіцца да бел-чырвона-белага сцягу і герба «Пагоня», «калі гэта выкарыстоўваецца для прасоўвання нацыянальных каштоўнасцяў».

Мінгарвыканкам падтрымаў ініцыятыву аб наданні сквера за Чырвоным касцёлам імя Эдуарда Вайніловіча. Члены камісіі па найменні і перайменаванні праспектаў, вуліц, плошчаў і іншых складовых частак горада Мінска прагаласавалі за гэтую прапанову адзінагалосна. Зразумела, чыім жа імём называць гэты сквер, як не імём фундатара касцёлу? Але паказальна, з якім абгрунтаваннем было прынятае рашэнне. Падчас пасяджэння было заўважана, што Вайніловіч «актыўна падтрымліваў рух за адраджэнне нацыянальнай культуры, фінансаваў выданне літаратуры на беларускай мове, асабіста ведаў многіх дзеячаў беларускага адраджэння, адкрыта асудзіў падзел Беларусі па ўмовах Рыжскага мірнага дагавора 1921 года»...

Міністр замежных спраў Беларусі Уладзімер Макей даў інтэрв'ю «Радыё Свабода». І не проста даў, а сказаў: «Калі ты беларус, калі разумееш, што без мовы не можа быць краіны, — будзе і мова жыць, і краіна развівацца... Трэба больш размаўляць на беларускай мове. Мы спрабуем гэта рабіць у нашым міністэрстве і заахвочваць людзей. Але ўсё павінна ісці ад душы, ад сэрца».

А Мінкульт і «Советская Белоруссия» раптам пачалі дбаць пра Курапаты і ўзгадваць сталінскія рэпрэсіі.

Якая нацыянальна арыентаваная муха ўкусіла нашае чыноўніцтва? З чаго гэта яны раптам усвядомілі каштоўнасць таго, супраць чаго змагаліся дзясяцігоддзямі?

Стасункі з Захадам улагодзіліся, таму што Захаду проста не да нас, у яго сваіх праблем хапае. З Расіяй таксама ўсё добра, нават газ па ўнутраных коштах выгандлевалі. Унутры краіны расце ВУП, кажуць, аж на 0,9% за пяць месяцаў... Адкуль беларускія чыноўнікі чакаюць ашуканства, калі заклапаціліся ўмацаваннем нацыянальнай ідэнтычнасці?

Можа, яны ўрэшце ўцямілі простую рэч: без Беларусі яны — ніхто. Пагроза ж незалежнасці краіны нікуды не знікла, і нават незаўважна ўзмацняецца. У 2018 годзе ў Расіі прэзідэнцкія выбары, да якіх трэба прыйсці хоць з нейкімі перамогамі. З перамогамі ў Пуціна складана, і «лёгкая мішэнь» тут, нібыта, Беларусь. І з Сінявокай таксама перыядычна спрабуюць зрабіць ворага — дастаткова ўзгадаць нядаўні вэрхал расійскіх «аналітыкаў» з нагоды выключэння расійскага рубля з нашых ЗВР. Гэта было расцэнена ледзьве не як здрада.




**«Беларускай ідэалогіі» не стварылі. І больш няма чаго рабіць, як вяртацца да каранёў**

Не дадаюць спакою вучэнні «Захад–2017». Інтэрнэт зноў абудзіўся чуткамі наконт «уваходжання Беларусі ў склад Расіі». РФ можа пачаць выдаваць свае пашпарты ўсім грамадзянам былога СССР і іх нашчадкам — адтуль і да «крымскага сцэнару» недалёка. А нашым чыноўнікам, што ні кажы, у «матухну-Расію» не хочацца зусім. Бо зараз яны — буйныя начальнікі, а ў выпадку «яднання» — беспрацоўныя. Усе цёплыя месцы ў РФ ужо падзеленыя. І таму ім нічога не застаецца, як бараніць незалежнасць краіны.

«Унікальнай беларускай ідэалогіі», за што адказваў той самы спадар Бузоўскі, не стварылі. І больш няма чаго рабіць, як вяртацца да каранёў. Да нармальнай, гістарычнай, выпакутаванай беларускай незалежнасці.

А мажліва, адказныя чыноўнікі проста «ловяць трэнд». Беларускасць, што ні кажы, за апошнія часы стала проста моднай. Усім жа хочацца быць моднымі, праўда?

Але ж гэты трэнд, гэтая мода нарэшце сталі мажлівымі. Сталі мажлівымі насуперак дзяржаве, насуперак уладам, высілкамі выключна часткі грамадства. Тых, хто больш за дваццаць гадоў пасля ганебнага рэферэндуму 1995 года не выпускаў сцяг з рук і працягваў яго ўздымаць. Тых, хто прасоўваў беларускі трэнд нават тады, калі гэта лічылася небяспечным вар'яцтвам: «Малады фронт», невядомы «Мірон» з вывешваннем сцягоў у самых складаных і небяспечных месцах, «Арт-Сядзіба» з іх «Святамі вышыванкі», «Будзьма беларусамі» з фэстам беларускамоўнай рэкламы «Adnak!», «МоваНанова» і «Мова ці Кава» і шмат-шмат іншых... Усіх не пералічыш.

Пакуль каштоўнасць беларускасці гучыць на ўзроўні «асабістай думкі» чыноўнікаў. Аднак нельга не заўважыць, што гэта — тэндэнцыя.

Наперадзе ў нас 2018 год — стагоддзе з дня абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Ці стане 25 сакавіка афіцыйным дзяржаўным святам?

# Дзмітрый Крамянецкі патрабуе ад КДБ кампенсацыю

**Актывіст «Маладога фронту» Дзмітрый Крамянецкі звярнуўся ў Камітэт дзяржаўнай бяспекі з заявай аб вынясенні пастановы на кампенсацыю шкоды.**

Малады чалавек лічыць, што яго ўтрыманне пад вартай было незаконным. Акрамя гэтага, на ўсе допыты Дзмітрыя вадзілі з апранутым на галаву чорным мяшком, што, відавочна, рабілася ў мэтах запалохвання і псіхалагічнага ціску і прычыняла яму асаблівыя пакуты, а таксама прыніжала яго чалавечую годнасць.

Пасля атрымання пастановы Дзмітрый Крамянецкі плануе звярнуцца ў суд з позвай да Міністэрства фінансаў, КДБ і МУС аб кампенсацыі матэрыяльнай і маральнай шкоды, а таксама кампенсацыі выдаткаў на юрыдычную дапамогу.

Юрыст Праваабарончага цэнтра «Вясна» Аляксей Лойка, які дапамагаў складаць заяву актывісту, адзначае, што ў адпаведнасці з арт. 462 Крымінальна-працэсуальнага кодэкса пры наяўнасці падстаў орган, які вядзе крымінальны працэс, абавязаны прызнаць за фізічнай асобай права на кампенсацыю шкоды, пра што выносіць пастанову, у якое адзначае выгляд нанесенай шкоды.

«У адпаведнасці з часткай 1 артыкула 460 КПК шкоду, якую прычынілі грамадзяніну ў выніку незаконнага затрымання, утрымання пад вартай і дамашняга арышту, часовага адхілення ад пасады, змяшчэння ў псіхіятрычны стацыянар, асуджэння, прымянення прымусовых мер бяспекі і лячэння, кампенсуецца дзяржавай у поўным аб'ёме незалежна ад віны асобы, якая праводзіць дазнанне, органа дазнання, следчага, пракурора, старшыні следчага камітэта Рэспублікі Беларусь, старшыні камітэта дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь або асобаў, якія выконваюць іх абавязкі, або суда», — падкрэсліває юрыст.

Нагадаем, Дзмітрый Крамянецкі быў затрыманы супрацоўнікамі КДБ 23 сакавіка 2017 года па падазрэнні ў «падрыхтоўцы масавых беспарадкаў». 2 чэрвеня старэйшым следчым па асабліва важных справах 1 аддзела следчага ўпраўлення КДБ А.В. Грыбам вынесена пастанова аб спыненні крымінальнага пераследу ў дачыненні да «маладафронтаўца» за адсутнасцю ў дзеянні складу злачынства.

**spring96.org**

# Бежанцам будуць бясплатна выкладаць рускую мову

Вікторыя ЧАПЛЕВА

**Украінскія бежанцы змогуць бясплатна атрымліваць медыцынскую дапамогу, пра гэта на прэс-канферэнцыі паведаміў прадстаўнік Упраўлення вярхоўнага камісара ААН па справах бежанцаў у Беларусі Жан-Іў Бушардзі.**

«Кожныя тры секунды нехта мусіць ратавацца ад гвалту. Заўсёды хтосьці бяжыць з Сірыі, Афганістану, Саудаўскай Аравіі. У выніку, колькасць бежанцаў на сёння дасягае 65 мільёнаў чалавек», — адзначыў Жан-Іў Бушардзі.

Паводле словаў прадстаўніка УВКБ ААН, большая частка бежанцаў знайшла ўратаванне ў суседніх краінах — Турцыі і Пакістане. Еўропа дапамагае тром мільёнам бежанцаў.

Прымае мігрантаў і Беларусь. Да 2013 года статус бежанца прасілі каля 200 замежнікаў. 70% з іх былі з Афганістана. У 2014 годзе колькасць мігрантаў, якія сталі прыязджаць у Беларусь, значна павялічылася. Супрацоўнікі МУС тлумачаць рост мігрантаў падзеямі на паўднёвым усходзе Украіны. У 2015 годзе колькасць замежнікаў, якія прасілі статус бежанца, была ўжо 1200 чалавек.

У 2015–2016 годзе найвялікшая плынь мігрантаў у Беларусь ішла з Украіны — каля дзвюх з паловай тысяч. Больш за 1,9 тысяч украінцаў атрымалі дадатковую абарону і дазвол на часовае пражыванне ў Беларусі тэрмінам да года.

На другім месцы па колькасці бежанцаў у Беларусі ідзе Сірыя, затым — Афганістан, Ірак, Емен і шэраг іншых краін, дзе існуе напружанне праз ваенныя дзеянні. Але сёння большасць мігрантаў, якія перасякаюць мяжу Беларусі, разглядаюць яе толькі як транзіт. Таму просяць пра статус бежанцаў адзінкі. У мінулым годзе такіх было 46 чалавек.

Каб мець магчымасць дзесьці размяшчаць асоб, якія затрымліваюцца на мяжы, у Беларусі з гэтым годзе пачынаецца будоўля міграцыйных цэнтраў. Праз пяць гадоў праект мусіць быць завершаны. Зараз мігранты, якія перасякаюць мяжу Беларусі, утрымліваюцца ў ізалятарах часовага ўтрымання.

З 1 ліпеня 2017 года ў краіне пачне дзейнічаць Закон «Аб унясення зменаў і дапаўнення ў некаторыя законы Рэспублікі Беларусь па пытаннях вымушанай міграцыі».

Іміграантам будзе прасцей рэгістравацца і атрымліваць статус бежанца. Раней статус бежанца можна было атрымаць, здзейсніўшы дзве працэдуры. Спачатку замежнік мусіў падаць заяву на тое, каб яму далі прытулак, а затым — статус бежанца і дадатковую абарону. Цяпер для замежніка гэта будзе адна працэдура. А тэрмін разгляду хадайніцтва не будзе перавышаць шасці месяцаў.

Пункты, якія будуць рэгістраваць мігрантаў, цяпер размесцяцца ў зонах міжнародных пропускаў, напрыклад, у аэрапорце.

«Цяпер і дарослыя бежанцы з Украіны змогуць бескаштоўна карыстацца медыцынскімі паслугамі. Раней гэта маглі рабіць толькі дзеці. А бежанцаў-дзяцей у Беларусі каля 450 чалавек. Мы вылучаем гэтую групу, бо яна асаблівым чынам патрабуе ўвагі», — заўважыў прадстаўнік УВКБ ААН.

Бежанцам будзе прасцей атрымліваць адукацыю — цяпер яны змогуць гэта рабіць на роўных з беларусамі ўмовах. УВКБ ААН разглядае адукацыю бежанцаў як ключ да інтэграцыі. Кіраўніцтва ўжо пачало праводзіць у Беларусі шэраг навучальных семінараў па працаўладкаванні мігрантаў і навучанні рускай мове, што будзе працягвацца і далей. Пра навучанне беларускай мове бежанцаў нічога сказана не было.

# Вячаслаў Касінераў: «На зямлі мяне дабівалі чалавек сем...»

Алесь КІРКЕВІЧ

**Фігуранта «Справы графіцістаў» Вячаслава Касінерава і яго сяброў жорстка збілі ў Маладзечне. У выніку ў актывіста зламаны нос і чэрапна-мазгавая траўма.**

Гэта здарылася 21 чэрвеня прыкладна а 10-й вечара на цэнтральнай плошчы Маладзечна. Туды Касінераў разам з сябрам і сяброўкамі завітаў да знаёмых, каб адпачыць. Нечакана з'явіліся чалавек дваццаць, якія прадставіліся «правымі» ды пачалі чапляцца да маладзёнаў, завязалася бойка.

«Магчыма, нас вялі яшчэ ад вакзалу, — тлумачыць Касінераў, — мы там бачылі хлопца, які некаму тэлефанаваў, паглядаючы на нас. Магчыма, акурат збіраў сваю «зондэр-каманду нацы-гопнікаў». У выніку па горадзе ездзіла некалькі аўто, поўных людзей, шукалі. Ёсць верагоднасць, што ўвагу прыцягнула наша знешнасць, пірсінг, татуяванні і інш».

Паводле Касінерава, бойка нагадвала хутчэй збіццё, бо нападнікаў было болей прыкладна ў пяць разоў, білі таксама і дзяўчат: адну дзяўчыну жорстка кінулі на асфальт. Міліцыі побач не было.

«Асабіста мяне паваліліна зямлю, — працягвае Касінераў, — і дабівалі чалавек сем. Я трапляў розныя бойкі, але гэта больш нагадвала збіццё, не пра якія роўныя магчымасці гаворкі не ішло. Як вынік — паламаны нос і чэрапна-мазгавая траўма».

Здзівіла актывіста таксама нахабства і самаўпэўненасць нападнікаў, якіх не засмучала ані тое, што гэта цэнтр гораду, ані відэакамеры побач. На думку актывіста, гэта можа тлумачыцца альбо «глупствам», альбо «папярэдняй дамовай з сілавікамі».

У міліцыю па факце нападу юнакі звяртацца не збіраюцца.

Нагадаем, што Вячаслаў Касінераў быў фігурантам гучнай «Справы графіцістаў». Ён і яго паплечнікі неаднаразова ўдзельнічалі ў вулічных акцыях апазіцыі, у тым ліку цягам «вясновых пратэстаў» сёлета.

# Мядзельскі замак за кратамі

**Ужо амаль тры месяцы ў зняволенні знаходзіцца 25-гадовы студэнт БНТУ Іван Кавальчук. Ён, разам з іншымі абвінавачанымі, праходзіць па так званай «справе патрыётаў».**

Студэнт-архітэктар Іван Кавальчук вучыўся на апошнім, шостым курсе, нават у зняволенні ён працягвае працаваць над дыпломам, звязаным з аднаўленнем Мядзельскага замка.

«Мой брат Іванка — моцны духам чалавек. Нягледзячы на ўсе абставіны, якія з ім адбыліся і адбываюцца апошнім часам, ён не губляе час дарма, — расказвае «Нашай Ніве» брат Івана Аляксей Кавальчук. — Акрамя самаразвіцця (чытання кніг і вывучэння польскай мовы), ён шмат часу праводзіць за напісаннем сваёй дыпломнай працы, тэмай якога з'яўляецца аднаўленне і рэканструкцыя Мядзельскага замка. Іван скончыў 6-ы курс архітэктурнага факультэта БНТУ, засталася толькі абарона дыплома.

Да гэтага часу не засталося ніякіх выяваў і малюнкаў, як замак выглядаў раней, але на падставе ранейшых раскопак і даследаванняў, у якіх Іван і сам прымаў удзел у валанцёрскай групе, брат зрабіў вялікую працу.

На канфіскаваным ноўтбуку знаходзіцца ягоная праца з 3D-мадэллю замка. Каб даведацца, як выглядаў замак, брат шматразова звяртаўся ў архівы Швецыі, бо менавіта шведы зруйнавалі яго. На гэта Івана натхніў і дапамагаў сябра Руслан Шошын [журналіст польскай газеты «Rzeczpospolita»].

Я з упэўненасцю магу сказаць, што гэта будзе вялікі ўнёсак у гісторыю Беларусі і яе развіццё. Асабліва мне было б прыемна даведацца, што ў хуткім часе мой сын зможа даведацца са школьнага падручніка, што быў Мядзельскі замак і як ён выглядаў.

Я вельмі ўдзячны за дапамогу выдатнаму хлопцу Змітру Савельеву, які сам раней навучаўся ў БНТУ і які выклікаўся дапамагчы Івану з напісаннем яго працы.

Калі гэта не ўнікальны выпадак напісання дыплома, то, пэўна, не так шмат было такіх выпадкаў, а як гэтае ліставанне адбываецца — глядзіце на прыкладзе аднаго з лістоў.

І нашы ўлады лічаць такіх людзей, якія працуюць для нашай з вамі спадчыны, злачынцамі».

**Запісаў Зміцер Панкавец, «Наша Ніва»**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Песня пра пенсію

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Мяне заўсёды турбавала адно пытанне. А менавіта: калі ў нас усё так добра, як нам кажуць па тэлевізіі, чаму нам рэгулярна не хапае грошай? Мы іх ашчаджаем, пазычаем, эканомім, «аптымізуем», а іх не хапае ўсё роўна…**

Вось і зараз родны да немагчымасці Белстат выдаў чарговую порцыю аптымістычных лічбаў. Паводле першай ацэнкі Нацыянальнага статкамітэта, аб'ём ВУП за студзень-май вырас на 0,9% у параўнанні з папярэднім годам. Сельская гаспадарка за той жа перыяд павялічыла вытворчасць на 0,1%, прамысловая вытворчасць — на 6%. У той жа час, за студзень-красавік рэальныя даходы насельніцтва (пры росце прадукцыйнасці працы, заўважце) знізіліся на 1,5%.

То бок, мы больш працуем, а менш зарабляем. Адпаведна, недзе павінны з'явіцца «лішнія» грошы, якія лішнімі, зразумела, не бываюць.

Мы ўсе спраўна плацім падаткі, але Міністэрства фінансаў паведамляе, што ў пачатку года ў Фондзе сацыяльнай абароны Беларусі ўтварылася непрыстойная дзірка — больш за 150 мільёнаў долараў. У гэтым годзе паступленні ў ФСАН у студзені-красавіку склалі 3,749 мільярда рублёў, а выдаткі фонду склаліся ў памеры 4,050 мільярда, гэта значыць дэфіцыт склаў 301,1 мільёна рублёў.

Адмыслоўцы тлумачаць гэта рознымі няўцямнымі фактарамі, кшталту «змяншэннем паступленняў на фоне росту расходаў фонду» (а тое мы не бачым па лічбах!), «пашырэннем льгот па выплаце абавязковых страхавых узносаў», «фонд зарплаты работнікаў малых прадпрыемстваў недзяржаўнай формы ўласнасці ў аналізаваным перыядзе скараціўся», «памяншэнне колькасці індывідуальных прадпрымальнікаў» (няма чаго было іх душыць!) і гэтак далей.

Што робяць у гэтай сітуацыі асобы, датычныя да ФСАН? Яны збіраюць грамадска-кансультатыўную раду пры Мінпрацы і сацабароны Беларусі ды абмяркоўваюць праект указа «Аб некаторых пытаннях дзяржаўнага сацыяльнага страхавання». То бок, думаюць, дзе б яшчэ ўзяць грошы. Меркаваннямі наконт каракціровак заканадаўства дзяліліся прадстаўнікі ФСАН, Галоўнага пенсійнага ўпраўлення Мінпрацы і сацабароны, Мінэканомікі, МПЗ, Савета па развіцці прадпрымальніцтва, Мінфіна і ФПБ. Ужо сама неабходнасць сустракацца ў такім фармаце наводзіць на думку — мы напярэдадні грандыёзнага шухеру.

Азначэнне наконт «шухеру» — не маё. Гэта піша спецыялізаваная «Эканамічная газета».

Пры абмеркаванні, «дзе ўзяць грошы», узнікла шмат цікавых ідэй. Абмяркоўвалася магчымасць даць ІП, натарыусам і адвакатам права ўдзельнічаць у сістэме дзяржаўнага сацыяльнага страхавання на добраахвотнай аснове — такі механізм дзейнічаў раней, але быў зменены. Прапануецца пашырыць кола ўдзельнікаў сістэмы дзяржаўнага сацстрахавання на добраахвотнай аснове за кошт асоб, якія працуюць «не-прадпрымальнікамі» (рамеснікі, рэпетытары, тамады, фатографы і іншыя). Узнікла думка нават пра адтэрміноўку ці растэрміноўку па аплаце ўнёскаў у ФСАН (добра, што хоць не прапаноўваюць ўзяць на гэтыя мэты крэдыт).

Але нейкім вельмі дзіўным чынам «высокія дамоўныя бакі» абышлі пытанне, чым жа займаецца сам ФСАН. Так, ёсць неабходная дзейнасць: выплата пенсій, дапамогаў, утрыманне службаў, у тым ліку службы занятасці насельніцтва. Аднак, згодна дадзеным праекту «Кошт урада»,

> **0,9%**
> **склаў прырост ВУП у Беларусі за студзень- май гэтага года. Сельская гаспадарка павялічыла вытворчасць на 0,1%, прамысловасць — на 6%. Але рэальныя даходы насельніцтва за студзень-красавік знізіліся на 1,5%**

ФСАН, напрыклад, фінансуе спецыяльныя вучэбна-спартыўныя ўстановы Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі. На гэтыя мэты ў 2016 годзе сышло 13,5 мільёна долараў. 39,4 мільёна долараў сышло на «санітарна-курортнае лячэнне і аздараўленне». Пры гэтым хто аздаравіўся — ні гу-гу.

І самая цікавая графа — «іншыя выдаткі». Гэтыя выдаткі ўзраслі ў мінулым годзе амаль на 44% і склалі, па дадзеных таго ж «Кошту ўраду» 36,4 мільёна долараў.

Вось мы знайшлі амаль 90 са 150 мільёнаў долараў, якія «выпарыліся» з ФСАН па сумненўна-мэтавых праграмах. Бо навошта ФСАН фінансаваць ФПБ, якая мае 4 мільёны чальцоў ды з кожнага здымае сяброўскія складкі?

Не спяць у шапку з крэатывам і айчынныя падаткавікі, якія вынайшлі яшчэ адно ноў-хаў па «адносна сумленным адыманні грошай у насельніцтва». Напярэдадні сумных датаў пачатку вайны і вызвалення Мінска яны разаслалі «лісты шчасця» ацалелым у Халакосце беларускім габрэям. Тысячы гэтых людзей — рэцыпіенты гуманітарнай дапамогі ад амерыканскага JDC («Джойнта»). «Джойнт» аплачвае дапамогу, напрыклад, памочніц, што прыходзяць да старых (патранажных сядзелак) — у хаце прыбрацца, прадукты набыць, смецце вынесці і проста пагутарыць… Падаткавікі ж такую дапамогу для 85–90-гадовых людзей запісалі… у іх «дадатковы даход»! Маўляў, вы за гэта не плаціце, значыць — ваш даход! Пры гэтым сума налічанага за тры месяцы падатку складала палову месячнай пенсіі сярэднестатыстычнага пенсіянера Беларусі.

Добры клопат пра старых людзей, якія перажылі незлічоныя пакуты ў перыяд Другой сусветнай вайны…

Пры гэтым JDC вымушана выконваць падатковае заканадаўства Беларусі, але сродкаў на сплату падатку замест старых людзей у бюджэце «Джойнта» проста не закладзена. У выніку дабрачынная арганізацыя толькі адзначае «несправядлівасць і нават амаральнасць» беларускіх падаткавікоў. Але для нашага МНС, як мы бачым, грошы не пахнуць, нават калі яны палітыя крывёю і слязамі…

На тыдні мы зноў пачулі пра жаданне Беларусі размясціць «еўрабонды» — то бок, пазычыць іх пад працэнты. Прычым, гэта ўсё больш нагадвае «МММ». Як мяркуе фінансавы аналітык «Альпары» Вадзім Іосуб, новыя бонды трэба прадаць для таго, каб разлічыцца па старым. У студзені 2018-га нас чакае сплата па раней выпушчаных еўрабондах на 800 мільёнаў долараў. Вось канкрэтна пад іх пагашэнне ўлады і спрабуюць заняць сродкі.

Плюс гэтых паперак у тым, што яны, хоць і даражэйшыя за той жа крэдыт МВФ, але не патрабуюць выканання нейкіх умоў кшталту «структурных рэформаў», чаго патрабуе той жа МВФ.

Самае цікавае, адкуль у нас увогуле ўзяўся гэты мазгаломны знешні доўг. Краіна ўклала вар'яцкія грошы ў мадэрнізацыю — дрэваапрацоўкі, цэментнай вытворчасці, лёгкай прамысловасці, сельскай гаспадаркі. Зараз дабудоўваем нікому не патрэбую АЭС у 10 мільярдаў долараў… Аддачы ад гэтага — не атрымалі. І, тым не менш, зараз нацэліліся на новую мадэрнізацыю — ужо машынабудавання.

Дык можа, трэба проста перастаць укладаць грошы ў бессэнсоўныя праекты? Тады, магчыма, і на пенсіі фінансы знойдуцца…

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Мікалай Статкевіч



**Экс-кандыдат у прэзідэнты атрымаў ад айчыннага Следчага камітэту парадаксальнае пасланне.**

Нагадаем, 24 сакавіка Статкевіча захапіла група з сямі чалавек у масках і да 27 сакавіка ўтрымлівала ў СІЗА КДБ. Пасля без тлумачэнняў палітыка вывезлі за межы гораду і адпусцілі. Каб зафіксаваць факт свайго знаходжання ў КДБ, Статкевіч зрабіў запіс пра абставіны захопу і ўтрымання ў СІЗА ў кнізе заўваг і прапаноў прыёмнай КДБ. У запісе ён патрабаваў представіць пісьмовае юрыдычнае абгрунтаванне яго захопу і вызвалення. Адказу ад КДБ ён так і не атрымаў, таму звярнуўся ў Следчы камітэт.

Следчы камітэт адказаў Статкевічу, што яго зварот «не з'яўляецца заявай аб злачынстве», а таму «законных падстаў для правядзення праверкі ў адпаведнасці з артыкуламі 173–174 Крымінальна-працэсуальнага кодэксу Рэспублікі Беларусь няма».

«З тэксту звароту не ўгледжваецца, што супрацоўнікі КДБ злачынна, супрацьпраўна завалодалі Вамі, ужывалі ў дачыненні да Вас гвалт або пагрозу яго ўжывання, інакш кажучы, здзейснілі ў дачыненні да Вас дзеянні, якія відавочна выходзяць за межы іхніх правоў і паўнамоцтваў. Якая-небудзь рэальная пагроза Вашай бяспецы таксама Вамі не апісаная», — гаворыцца ў лісце Следчага камітэту.

## Святлана Алексіевіч



**Беларуская Нобелеўская лаўрэатка давала інтэрв'ю аднаму выданню, аднак яно патрапіла ў зусім іншае.**

Першапачаткова яе агенты дамаўляліся на інтэрв'ю з карэспандэнтам газеты «Деловой Петербург». Але журналіст, які прыйшоў да пісьменніцы, выявіўся «ватнікам». Ад пачатку Алексіевіч праспрабавала пераканаць яго ў сваёй пазіцыі па Украіне, назвала глупствам сцвярджэнне, што ў 2014 годзе ва Украіне адбыўся дзяржаўны пераварот, згадала пра русіфікацыю, пра знішчэнне ў савецкія часы інтэлігенцыі ў Беларусі і Украіне, падкрэсліла непасрэднае дачыненне Расіі да вайсковага канфлікту на ўсходзе Украіны. І ў выніку забараніла друкаваць інтэрв'ю.

Сапраўды, у «Деловой Петербург» гутарка не трапіла. Аднак трапіла ў сумнавядомае прапагандысцкае інфармацыйнае агенцтва «Regnum». «Відаць, што «Деловой Петербург» сапраўды адмовіўся друкаваць тэкст, калі я забараніла, і потым яшчэ гэта пацвердзіў мой прадстаўнік. Тады гэты журналіст надрукаваўся ў іншым месцы. Ніякаму агенцтву я інтэрв'ю не давала. Выглядае, што там даведаліся і вырашылі скарыстацца сітуацыяй», — мяркуе Алексіевіч.

## Зянон Пазьняк



**Палітык, які ўжо два дзясяцігоддзі знаходзіцца ў эміграцыі, пераабраны старшынёй Кансерватыўна-хрысціянскай партыі БНФ.**

Нагадаем, што ён кіруе партыяй з-за мяжы з 1999 года.

Выканаўца абавязкаў старшыні КХП-БНФ Юрась Беленькі не бачыць у гэтым нічога дзіўнага. «Зянон Пазьняк сваім жыццём і дзейнасцю даказаў сваю вартасць як палітыка і як аналітыка. Свае здольнасці і волю ён рэалізаваў, прывёўшы краіну да незалежнасці. Пазьняк, нягледзячы на абставіны, заўжды казаў праўду і рабіў слушныя прагнозы. Стратэгія, якую ён распрацоўваў, пацверджаная жыццём. Не так даўно шмат хто гнеўна казаў пра ягоную ацэнку Расіі, а пасля падзеяў ва Украіне ўсё пацвердзілася на 100%. Гэта лагічна, што мы вылучылі яго», — лічыць Беленькі.

«Маючы такую асобу, маючы Пазьняка, казаць: «А давайце абяром некага іншага», было б дзіўна», — дадаў ён.

У той жа час КХП-БНФ будзе заставацца партыяй, мэтай якой не з'яўляецца прыход да ўлады праз выбары. «Калі выбараў няма, то мы не хочам падманваць людзей і ісці на ўчасткі… Ва ўмовах унутранай акупацыі, калі праз выбары нічога не зменіш, галоўнае — палітычныя і нацыянальная асвета. Калі не будзе носьбітаў незалежніцкіх каштоўнасцяў, дык не будзе ніякіх пераменаў», — адзначае Беленькі.

# Ці пабягуць беларусы за расійскім грамадзянствам?



Дзяніс ЛАЎНІКЕВІЧ

**Дэпутаты расійскай Дзяржрдумы рыхтуюць сур'ёзныя змены ў заканадаўстве: любы чалавек, які нарадзіўся ў СССР, зможа атрымаць грамадзянства РФ — без усялякіх перашкод, і нават не адмаўляючыся ад замежнага грамадзянства. Ці скарыстаюцца гэтым беларусы?**

## Ініцыятыва адыёзных

Праект закона, які спрашчае працэс атрымання грамадзянства РФ тым, хто размаўляе па-руску, ужо ўхвалены камітэтам па справах нацыянальнасцяў і знаходзіцца на разглядзе Дзяржрдумы. У тлумачэнні да законапраекта сказана: «Носьбітамі рускай мовы вырашана лічыць людзей, якія нараджаныя на тэрыторыі Расіі і былога СССР, а таксама іх кроўных сваякоў, таксама народжаных у Расіі і б.СССР».

Цяперашні законапраект быў унесены ў Дзяржрдуму 30 снежня 2016-га намеснікам старшыні Камітэта па справах СНД Канстанцінам Затуліным («Адзіная Расія»). Пазней да яго далучыліся дэпутаты Арцём Тураў, Наталля Паклонская і Умахан Умаханаў.

Сам распрацоўшчык законапраекта Канстанцін Затулін так пракаментаваў сваю ініцыятыву для НЧ: «Велізарная маса нашых суайчыннікаў не задумваецца аб перасяленні ў Расію. Але яны жадалі б быць грамадзянамі РФ. Чаму мы павінны адмаўляць мільёнам у блізкім замежжы? Гаворка ў законапраекце ідзе не толькі пра тых, хто нарадзіўся ў СССР, але і пра ўсіх, чые сваякі нарадзіліся на тэрыторыі Расійскай імперыі або Савецкага Саюза».

## Дзверы на Усход

Адно з сумных, але даволі дакладных народных азначэнняў Беларусі: «Краіна, у якой найвышэйшым дасягненнем лічыцца з'ехаць з яе». На самай справе, красавіцкае апытанне грамадскай думкі, што правяла «Беларуская аналітычная майстэрня» Андрэя Вардамацкага, паказала: амаль траціна беларусаў, калі б мелі магчымасць, з'ехалі б у іншую краіну на сталае месца жыхарства. 31,3% беларусаў станоўча адказалі на пытанне: «Калі б у вас была магчымасць, ці хацелі б вы з'ехаць на ПМЖ за мяжу?». Апроч таго, 42,5% беларусаў жадалі б адправіць дзяцей вучыцца за мяжу, калі б у іх была такая магчымасць (з магчымасцю застацца там жыць).

Настрой «трэба валіць» наўпрост карэлюецца з не самай высокай каштоўнасцю беларускага грамадзянства ў вачах саміх беларусаў. Сацыёлагі з НІСЭПД гадамі задавалі беларусам тры пытанні аб інтэграцыйных перавагах: «аб'ядноўвацца з Расіяй ці не», «уступаць у ЕС ці не» і жорсткі выбар — «уступаць у ЕС або аб'ядноўвацца з РФ». Паводле дадзеных на 1996 год, жадаючых аб'яднацца з Расіяй у адну дзяржаву было больш за 60%. І так у цэлым да 2003 года.

Але потым беларусы крыху расчараваліся ў Расіі. У 2014 годзе супраць аб'яднання з Расіяй выказваліся ў розныя месяцы каля 50%, за — ад 30% да 23%. Але, нягледзячы на адсутнасць жадання аб'ядноўвацца з Расіяй, беларусы адчуваюць псіхалагічнае сваяцтва з «братэрскім народам». Бліжэй да рускіх сябе адчувалі 73,6% апытаных, а бліжэй да еўрапейцаў — 25,4%.

Аднак нават чвэрць жадаючых стаць расіянамі — велізарны паказчык. Пытанне тут у тым, колькі з іх сапраўды пойдзе атрымліваць пашпарт з «курыцай-мутантам», калі працэдура пераходу ў расійскае грамадзянства стане такой лёгкай?

Як лічыць аналітык Сяргей Нікалюк, для шмат якіх грамадзян Беларусі расійскі пашпарт стане магчымасцю вырашыць многія пытанні. «Мая нябожчыца маці нарадзілася ў Кастраме, была жонкай вайскоўца, і ў свой час спатрэбіліся велізарныя высілкі, каб аформіць ёй расійскае грамадзянства. Іншая справа, што ў большасці сваёй тыя, хто жадаў выехаць у Расію, ужо выехалі. Застаюцца маладыя людзі, якія тут губляюць працу (або не знаходзяць яе адразу пасля вучобы), і пераязджаюць у Расію ў пошуках перспектываў», — адзначае ён.




«На самай справе, Расія дзейнічае вельмі правільна — так, як робіць увесь свет. Усюды ідзе змаганне за мазгі, а таксама за ўмелыя працоўныя рукі. У Расіі цяпер дасведчаныя, кваліфікаваныя працоўныя масава сыходзяць на пенсію. Іх трэба замяшчаць, і ў гэтым плане беларускія кваліфікаваныя рабочыя — знаходка для расійскіх наймальнікаў. Нагадаю, што калісьці, на максімуме розніцы ў заробках паміж Беларуссю і Расіяй, называлася колькасць беларусаў, якія працуюць у Расіі, — ад 500–600 тысяч да мільёна. Я думаю, што і тады мільён не набіраўся. Але, безумоўна, некалькі сотняў тысяч нашых грамадзян у Расіі працуюць. Хтосьці з іх захоча застацца, прыняць грамадзянства. І, што вельмі важна, гэты людскі струмень — з Беларусі ў Расію — будзе цячы і далей», — лічыць Нікалюк.




Цяпер часта кажуць, што «беларускія гастарбайтэры вяртаюцца з Расіі». Але гэта не зусім так, зазначае кіраўнік праграмы «Ла Страда» МГА «Гендэрныя перспектывы» Алёна Несцярук. За мяжой толькі ў 2012 годзе легальна працавалі не меней 3% ад эканамічна актыўнага насельніцтва Беларусі. І працоўных мігрантаў становіцца ўсё больш: за пяць гадоў (з 2006 па 2012 год) колькасць беларусаў, якія выязджаюць на заробкі за мяжу, вырасла больш чым у чатыры разы.

З гэтым згаджаецца аналітык варшаўскага даследчага цэнтра «Eurasian States in Transition» (EAST) Андрэй Елісееў. Паводле яго меркавання, галоўны кірунак для беларусаў-мігрантаў — Расія. Да крызісу 70–90% працоўных мігрантаў з Беларусі з'язджалі менавіта туды. Цяпер іх колькасць крыху знізілася, аднак Расія ўсё роўна застаецца на першым месцы для нашых суайчыннікаў, якія адпраўляюцца на заробкі.

Дадзеныя Федэральнай міграцыйнай службы Расіі паказваюць, што беларусаў, якія працуюць у Расіі, у 2015 годзе было каля 30 тысяч. Паводле расійскай статыстыкі, часцей за ўсё на працу выязджаюць маладыя людзі ва ўзросце 18–29 гадоў. Працуюць яны, як правіла, у будаўніцтве, на апрацоўчых вытворчасцях, у аптовым і раздробным гандлі, у сферы рамонту аўтамабіляў. Зразумела, што маладыя людзі больш схільныя да таго, каб застацца жыць у Расіі і атрымаць расійскае грамадзянства.

Але на самай справе іх нашмат больш, чым 30 тысяч. «Часта беларусы ў Расіі занятыя без пастаноўкі на ўлік, гэта значыць, не бачныя і ў расійскай статыстыцы. Згодна з маёй ацэнкай, на працягу каляндарнага года на расійскім рынку працы часова занятыя 200–300 тысяч беларусаў», — мяркуе Андрэй Елісееў.

**Нават чвэрць жадаючых стаць расіянамі — велізарны паказчык. Пытанне ў тым, колькі з іх сапраўды пойдзе атрымліваць пашпарт з «курыцай-мутантам», калі працэдура пераходу ў расійскае грамадзянства стане такой лёгкай?**

## Дзверы на Захад

Самая відавочная альтэрнатыва для беларусаў, якія жадаюць абавязкова змяніць грамадзянства, — польскі пашпарт. Тым больш, што сёння эканоміцы Польшчы бракуе працоўных рук. А пускаць да сабе сірыйскіх і паўночнаафрыканскіх мігрантаў палякі не жадаюць, з-за чаго нават сур'ёзна сварацца з Брусэлем.

Затое ў Польшчы добразычліва ставяцца да беларусаў і ўкраінцаў. Хай нават часам і лічаць іх людзьмі другога гатунку — але, прынамсі, настрой добразычлівы. У 2015 годзе працадаўцам дазволілі не апавяшчаць мясцовыя ўлады і не атрымліваць дазвол пры найманні адмыслоўцаў з Беларусі, калі яны працуюць не больш за 6 месяцаў на год.

Не дзіўна, што шмат хто, асабліва на захадзе нашай краіны, звязвае сваю будучыню менавіта з Польшчай. Адсюль і папулярнасць Карты паляка сярод беларусаў.

Вялікую цікавасць да Польшчы пацвярджае і статыстыка зваротаў у праграму «Ла Страда». Калі ў 2013 годзе звароты наконт працы ў Расіі складалі 53% ад агульнага ліку, а наконт Польшчы — 10%, то ў 2016 годзе было 27% і 22% адпаведна.

Хаця атрымаць грамадзянства Польшчы (то бок стаць паўнапраўным жыхаром ЕС) нашмат складаней, чым перайсці ў падданства Расіі. Але ўсё ж беларусу ў Польшчы, каб абзавесціся запаветным пашпартам, зусім не абавязкова рабіць буйныя інвестыцыі, купляць нерухомасць або чакаць дзясяткі гадоў. Пры наяўнасці неабходных падстаў, на ўсю працэдуру афармлення сыходзіць ад 3 да 12 месяцаў. А з 1 студзеня 2017-га ўладальнікі Карты паляка або Карты сталага побыту могуць прэтэндаваць на польскае грамадзянства ўжо праз год пражывання на тэрыторыі Рэспублікі Польшча.

Акрамя таго, атрыманне польскага пашпарту не патрабуе адмовы ад папярэдняга грамадзянства. І сёння ў Беларусі (як і ва Украіне) дзейнічае мноства пасярэднікаў — фірмаў, якія дапамагаюць за адэкватныя грошы прайсці ўвесь шлях: ад вывучэння мовы і працаўладкавання ў Польшчы, і да атрымання Карты паляка, а потым і польскага пашпарту.

## Што б гэта значыла?

На жаль, традыцыйны для Беларусі недахоп сацыялагічных дадзеных не дазваляе зрабіць адэкватны прагноз таго, як будуць паводзіць сябе беларусы, калі для іх з'явіцца магчымасць лёгка пераходзіць у расійскае грамадзянства. Тым больш, мы не ведаем, ці не супадзе гэта з чарговай хваляй шалёнай прапаганды кшталту «Крымнаш». Бо ж выбары прэзідэнта там ужо праз год.

Але мне падаецца, што беларусы не пачнуць масава атрымліваць расійскія пашпарты. Па-першае, гэта не ўхваліць беларуская ўлада — і цалкам будзе мець рацыю. Наўрад ці многія беларусы захочуць мяняць пашпарт, калі гэта будзе закрываць ім магчымасці, напрыклад, уладкавацца на працу ў дзяржаўныя структуры.

Многіх непакоіць, што калі значная частка беларусаў зробіцца грамадзянамі Расіі, яны аўтаматычна пераўтворацца ў «пятую калону». І Расія, калі ёй штό не спадабаецца, можа захацець «прыйсці на дапамогу суграмадзянам» — натуральна, з танкамі ды «ветлівымі чалавечкамі». Але ж паглядзіце ўважліва на вуліцы свайго горада. Колькі там машын з расійскімі трыкалорамі ды «каларадскімі» стужкамі? Дадаткова нейкую калону і стварыць не трэба…

А што да тых, хто жадае перайсці ў польскае грамадзянства… Упэўнены, што ў 99% выпадкаў матывы — выключна эканамічныя. Дый тых, хто насамрэч зменіць беларускі пашпарт на пашпарт з «ожэлам», у любым выпадку будзе нашмат меней за тых, хто можа захацець «падацца ў расіяне».

# Стратэгія прадухілення Майдана

Мікалай ДЗЯДОК

**Услед за ўздымам сацыяльнага пратэсту Беларусь перажыла ўздым рэпрэсій. Сёння, калі супрацьстаянне дзяржавы і грамадства перайшло ў традыцыйную пасіўную форму, можна прааналізаваць, што і як рабіла ўлада для прадухілення Майдану ў Беларусі.**




## Залежнасць ад абранай сцежкі

Найперш трэба праясніць, адкуль ва ўлады такі панічны страх перад любымі, нават негвалтоўнымі праявамі народнага незадавальнення.

У Лукашэнкі і яго набліжаных ёсць улада, грошы і маёмасць, на абароне якіх стаяць сілавыя структуры, мас-медыя і дапаможныя інстытуцыі (суды, пракуратура, падатковая інспекцыя і г.д.). І ў іншых дзяржавах кіруюць эліты, карыстаючы сваё становішча для прасоўвання ўласных палітычных і бізнес-інтарэсаў. Але ж там пратэсты людзей па самых розных нагодах не з'яўляюцца чымсьці звышнатуральным, і нават значна больш буйныя (і гвалтоўныя) выступы не выклікаюць такой шалёнай, нават істэрычнай рэакцыі, як у Беларусі. У чым жа прычына?

Перш за ўсё, у тым, што ў эліт ліберальных дэмакратый Захаду ўлада мяняецца. Змяняльнасць ажыццяўляецца на падставе канкурэнтных выбараў, якія, у сваю чаргу, з'яўляюцца вынікам кансенсусу мас і эліт. Таму кожны, хто даходзіць да вяршынь улады, разумее, што сёння ён — «на кані», а заўтра — звычайны грамадзянін, і гэта моцна дадае яму пачуцця адказнасці і асцярожнасці ў дзеяннях. Тым, хто адкрыта злоўжывае сваімі паўнамоцтвамі, хутка даюць па руках — карупцыйныя скандалы і крымінальныя справы не абыходзяць бокам нават прэзідэнтаў і прэм'ераў.

З гэтага вынікае і зніжаны парог даступнасці высокіх пасад для звычайнага насельніцтва. Працуюць, як зараз кажуць, «сацыяльныя ліфты». Трапіць у эліту, хоць і складана, але ў прынцыпе магчыма.

Аднак у Беларусі ўсё не так. Доўгае знаходжанне ва ўладзе і, як следства, неабходнасць ужываць для гэтага ўсе больш гвалту, рабіць усё больш злачынстваў, згуляла з нашымі элітамі дрэнны жарт, паставіўшы іх у рамкі таго, што ў сацыялогіі называецца «path dependence» — залежнасць ад абранай сцежкі (шляху). Чым далей ты зайшоў у сваім напрамку, тым больш для цябе будзе каштаваць вяртанне назад і змена курса. У нейкі момант змена курсу будзе азначаць катастрофу.

Думаю, нікому не трэба нагадваць усе парушэнні законаў, нацыянальных і міжнародных, і тое, колькі чалавечых лёсаў былі паламаныя дзеля таго, каб Лукашэнка змог застацца пры ўладзе. І, што не менш важна, — колькі людзей ён адмыслова ўцягнуў у гэты ланцужок злачынстваў: ад генеральных пракурораў, міністраў МУС і кіраўнікоў КДБ, што давалі ўказанні на расправы, да міліцыянтаў-ілжэсведкаў. Уся сістэма адмыслова завостраная пад яго, змяняльнасць вярхоў як магчымасць год за годам выключалася з-за страху таго, што новыя вярхі прымусяць старыя плаціць па рахунках.

Ніякага кансенсусу, як на Захадзе, тут быць не магло, бо дыялог з контрэлітамі быў перарваны яшчэ ў 1996-м, потым жа ішло наўпроставае іх знішчэнне. Адсюль і ўспрыняцце апазіцыі як асабістага ворага. Адсюль такі страх перад каляровымі рэвалюцыямі і мантра: «Майдану ў Беларусі не будзе!»

## Улада працуе па некалькіх франтах

Аднак, вядома, аднымі мантрамі сыты не будзеш. Лукашэнка гэта разумее, таму падмацоўвае іх сістэмнай працай усіх дзяржаўных службаў. Што немалаважна, гэтая праца будуецца на аналізе досведу іншых каляровых рэвалюцый, у першую чаргу Рэвалюцыі Годнасці 2014 года. Вялікая ўвага надаецца не толькі падаўленню, але і прафілактыцы любых пратэстаў.

Аналіз дзеянняў беларускай улады ў прамежку 2014–2017 гадоў дазваляе казаць, што асноўныя намаганні рабіліся па трох напрамках: сілавое падаўленне і ізаляцыя ўдзельнікаў пратэсту (найперш актыўных); кантроль над інфармацыйнай прасторай; паляпшэнне жыцця людзей, каб зняць структурныя перадумовы пратэсту.

У рамках першага напрамку сілавікі ў апошнія гады зрабілі частковае адступленне ад прывычнага шаблону — зноў жа, звязанае з асэнсаваннем досведу Майдана. Калі раней «пад раздачу» траплялі перш за ўсё афіцыйныя палітструктуры, буйныя лідары пратэстаў, зарэгістраваныя палітычныя арганізацыі, то сёння фокус увагі сканцэнтраваны на нефармальных моладзевых рухах.

Арышт анархістаў 15 сакавіка і зачыстка 24–25 сакавіка тых, хто яшчэ застаўся, справа Паліенкі, «справа антыфашыстаў», шматлікія крымінальныя справы супраць ультраправых футбольных груповак (пра іх мала пішуць СМІ, хаця маштабы істотныя) — усё гэта кажа аб тым, што вядзецца «мэтанакіраваная праца».

Цікава, дарэчы, што ў гэты ж спіс трапілі і неанацысты, якіх беларуская міліцыя раней не вельмі заўважала. Затрыманы і асуджаны Стас Ганчароў, што вярнуўся з АТА, і з ім яшчэ 6 чалавек, а ў снежні ГУБАЗ паведаміў аб разгроме суполкі «Белы фронт» у Брэсце, якая займалася кантрабандай зброі і продажам наркотыкаў. Прычынай такой пільнай увагі стала, відавочна, тое, што беларускія неанацысты, натхніўшыся прыкладам «Правага сектару» і «Азову», амаль пагалоўна занялі праўкраінскую пазіцыю.

Да гэтага ж напрамку варта аднесці і рэзанансную справу «Белага легіёну». Ужо не існуючая арганізацыя была абраная мішэнню не ў апошнюю чаргу менавіта з-за сваёй нефармальнай структуры і цікавасці да вайсковай справы. Падчас шэсця 25 сакавіка яны планавалі ахоўваць мерапрыемства, не дапускаючы правакацый, што ў акругленых ад жаху вачах ГУБАЗ і КДБ перарасло ў «стварэнне незаконнага ўзброенага фарміравання» і «падрыхтоўку да масавых беспарадкаў». Канешне, абодва абвінавачванні не вытрымліваюць ніякай крытыкі (што гэта за ўзброенае фарміраванне са страйкбольнымі калашамі?), але іх з лішкам хапіла для таго, каб залічыць «легіянераў» у шэраг небяспечных і ізаляваць.

Адзначу вельмі істотны момант. Усе вышэй пералічаныя групы аб'ядноўвае адно: іх нефармальная структура, а значыць, да пэўнай ступені, некантраляванасць.

Улада прызвычаілася мець справу з інстытуцыянальнымі аб'яднаннямі: партыямі, якім можна пагражаць пазбаўленнем рэгістрацыі альбо офіса, іх лідарамі, якія прыносяць заяўкі ў Мінгарвыканкам, перамоўшчыкамі, якія вымушаныя ўсё рабіць па законе і хадзіць на паклон да чыноўнікаў. З нефармальнымі ж аб'яднаннямі — зусім іншая сітуацыя, і менавіта таму яны разглядаюцца як небяспека.

Другі напрамак — кантроль над інфармацыйнай прасторай — з'яўляецца адначасова спробай рэагаваць на выклікі сучаснасці (сацсеткі, паскораны абмен інфармацыяй) і рэакцыяй на Майдан, дзе велізарную ролю адыгралі менавіта альтэрнатыўныя СМІ. У межах гэтага напрамку ўлада, акрамя прывычных ужо прапагандысцкіх перадач з ачарненнем апанентаў, ажыццявіла і шэраг навінак: блакіроўка непажаданых сайтаў, старонак (пераважна анархісцкіх) у сацсетках, масавыя затрыманні журналістаў, штрафы за «несанкцыянаваны выраб прадукцыі СМІ», а таксама вынясенне папярэджанняў буйным незалежным СМІ з мэтай прымусіць іх да самацэнзуры.

Трэці напрамак, бадай, самы праблемны для ўлады, бо колькі сокаў ні выціскай з неэфектыўнай эканомікі, а Эміраты ў Беларусі не пабудуеш. Відавочна, што прычынай пратэстаў стаў агульны прыкры эканамічны стан у краіне і скарачэнне сацыяльных гарантый, а не праца «Белсату» ці заклікі Статкевіча. Ліквідаваць структурныя перадумовы пратэсту немагчыма без карэннай рэформы ўсяго ладу — што прыводзіць да замкнёнага кола, бо на такія рэформы ўлада ісці не гатовая. Перш за ўсё, таму, што гэтыя рэформу будуць пагражаць захаванню ўлады.

І таму дубінкі застаюцца галоўным фактарам, які стрымлівае людзей ад выхаду на вуліцы.

## Што далей?

Прагноз на будучыню гучыць як труізм: узровень рэпрэсій будзе залежаць ад узроўню пратэстных настрояў у грамадстве, а таксама ад цвёрдасці пазіцыі ЕС па беларускім пытанні. Шэраг еўрапейскіх палітыкаў выказаліся за вяртанне санкцый, у выпадку, калі колькасць палітзняволеных будзе павялічвацца. Гэта, можна не сумнявацца, таксама адыграла сваю ролю ў тым, што затрыманых па «справе патрыётаў» пачалі выпускаць, знялі адзін з двух артыкулаў і перадалі справу ў Следчы камітэт. Апошняе, дарэчы, добры знак для саміх арыштантаў і іх родных, бо калі КДБ у гучных палітычных справах — гэта «ваўкі», мэта якіх навесіць на абвінавачанага як мага больш злачынстваў і зламіць ягоны супраціў, то СК — звычайныя клеркі, ім застанецца толькі адпрацаваць шаблонную схему, якую ім, мусіць, ужо спусцілі.

Мяркую, што большасць затрыманых па «справе патрыётаў» адпусцяць да суду, застанецца нейкае «ядро», над якім, хутчэй за ўсё, і адбудзецца суд, але тэрміны прызначаць ці ўмоўныя, ці ў выглядзе абмежавання волі, ці роўныя колькасці адседжанага. Тое, што шмат абвінавачаных ужо адпусцілі, дэманструе: мэтай усёй справы была найперш ізаляцыя патэнцыйных актыўных удзельнікаў маршу 25-га — і гэта мэта была дасягнутая. Небяспека прайшла, сітуацыя стабілізавалася — можна выпускаць.

Агульная ж тэндэнцыя па рэпрэсіях, аднак, застаецца той жа: спачатку брутальна затрымліваюць, потым месяцамі трымаюць у СІЗА, а пасля прызначаюць пакаранне, якое, хоць часта і не звязанае з пазбаўленнем волі, усё ж істотна абмяжоўвае магчымасці актывіста, пакідаючы яго за крок да кратаў. І гэты крок часта бывае пройдзены, як у выпадку Зміцера Паліенкі, які атрымаў 1,5 гады рэальнага тэрміну пасля шэрагу адміністрацыйных арыштаў.

Разлік тых, хто прымае рашэнні аб рэпрэсіях, просты: пакуль пройдзе суд, пакуль праваабаронцы раскачаюцца і выкажуць сваю пазіцыю, пакуль у Еўропе вырашаць, хто палітвязень, а хто не, пакуль Еўрапарламент прыме рэзалюцыю... ужо паўгода пройдзе. А таму ўжо можна і вызваліць. Тым не менш, увесь гэты час актывіст сядзіць — ізаляцыйная і застрашвальная функцыя выконваецца.

Самае ж папулярнае пытанне, якое журналісты задаюць аналітыкам: калі адновяцца пратэсты? У адказ тыя нярэдка кажуць пра восень — маўляў, пачнуць прыходзіць жыроўкі, будзе трэба збіраць дзяцей у школу і гэтак далей. Але мне здаецца, што сама па сабе восень, як і само па сабе пагаршэнне эканамічнага становішча, пратэсты ў нас не выкліча. Неабходны трыгер — спускавы кручок, які перапоўніць кубак трывання, як гэта зрабіў Дэкрэт №3. Паколькі перадумовы для незадаволенасці не зніклі, а толькі былі гвалтоўна прыбраныя, гнеў непазбежна ўспыхне раней ці пазней.

А што стане нагодай: чарговы акт міліцэйскага гвалту, новы падатак ці масавае звальненне на нейкім з прадпрыемстваў — не ведае нават самы дасведчаны аналітык. Веснавыя пратэсты ў каторы раз прадэманстравалі, што народ — нават такі памяркоўны, як беларусы, па ранейшаму — стыхія. І гэта яшчэ адна прычына векавечнага страху перад ім якіх-кольвек правадыроў, кіраўнікоў і начальнікаў.

Марат ГАРАВЫ

**Мы жывём у незвычайны час, калі на нашых вачах адбываецца шмат чаго цікавага і доўгачаканага. У тым ліку — вяртанне Курапатаў у свядомасць грамадства.**

**Слухачка Лятучага ўніверсітэта Алёна Мезенцава з Кобрына папрасіла адказаць на шэраг пытанняў для даследавання, што робяць са сваімі выхаванцамі выкладчыкі гэтага грамадскага асяродку. Паразважаем пра ролю і месца Курапатаў у сённяшнім жыцці беларусаў.**



Фота www.tut.by

# Вярнуць Курапаты ў свядомасць, каб выціснуць раба

### Чым з'яўляюцца Курапаты для беларусаў і еўрапейцаў?

Курапаты — месца масавай згубы ахвяр палітычных рэпрэсій 1930–1940-х гадоў, знак нацыянальнай бяды, народная святыня і нацыянальны некропаль, сімвал трагедыі беларусаў у гады сталінізму. Гэты людажэрны рэжым забіў самых працавітых, таленавітых і адукаваных. Велізарныя страты лепшых прадстаўнікоў нацыі паслабілі яе, што і сёння адбіваецца на праблемах у нашым змаганні за волю і незалежнасць.

Гэтае месца нагадвае, што, у адрозненне ад дэмакратыі з яе цярпімасцю, павагай да правоў чалавека і яго свабоды, дыктатура трымаецца на нецярпімасці, бяспраўі чалавека і гвалце, у тым ліку палітычным, эканамічным і фізічным.

Паколькі ў Курапатах былі расстраляныя прадстаўнікі розных краінаў і этнасаў, урочышча з'яўляецца помнікам трагедыі еўрапейскага маштабу. Курапаты атаясамліваюцца не толькі з самай жудаснай трагедыяй беларусаў, калі нацыя страціла сваю эліту — нацыянальную інтэлігенцыю, але і з ідэалогіяй сённяшніх уладаў, якія лічаць Іосіфа Сталіна «выбітным менеджарам» і ўзвышаюць яго ролю ў гісторыі СССР і БССР. Урэшце, Курапаты ёсць сімвалам апошняй хвалі беларускага нацыянальнага Адраджэння, бо менавіта з адкрыцця таямніцы ўрочышча ў маі 1988 года паўстаў масавы народны рух за волю і незалежнасць Бацькаўшчыны.

### Што найбольш уражвае ў Курапатах?

У гэтым месцы ўражвае факт масавага забойства (паводле розных ацэнак, ад 7 да 300 тысяч ахвяраў сталінізму). Калі ўявіць, што гэтыя людзі з гонарам, годнасцю і сумленнем адначасова паўсталі з сваіх магілаў, народ Беларусі пераўтварыўся б у сучасную еўрапейскую нацыю. Кранае і той факт, што мемарыял сапраўды народны, бо створаны людзьмі, коштам іх уласных высілкаў і сродкаў.




Знаёмства з гістарычнай тапаграфіяй Курапатаў пашырае спіс уражлівых кропак. Гаворка ідзе пра аўтэнтычныя краявіды, пра месца, дзе ў маі 1988 года з дапамогай мінскіх школьнікаў беларускія археолагі пад кіраўніцтвам Зянона Пазьняка адкрылі таямніцу Курапатаў, пра месца, дзе ў выніку раскопак і эксгумацыі былі ўпершыню ідэнтыфікаваныя парэшткі ахвяраў — вязняў Гарадзенскага астрогу Моўшы Крамера, Мардыхая Шулькеса і Штама, расстраляных летам — ранняй восенню 1940 года, а таксама месца забойства позняй восенню 1938 — зімой 1939 гадоў не менш за 373 ураджэнцаў Усходняй Беларусі, у тым ліку 19 жанчын, рэчы якіх былі спаленыя катамі…

Немажліва абыякава прайсці каля крануальных памятных крыжоў і камянёў сваякам ахвяраў, забітых сталіністамі ў розных кутках Беларусі. Ва ўрочышчы ўражвае ўсё: палявы маршрут «Дарогі смерці» — апошняе, што бачылі бязвінныя людзі перад расстрэлам, месцы, дзе праходзіў высокі драўляны плот з варотамі, што з 1937-га па 1941-ы агароджвалі расстрэльны палігон, ямы на месцах, дзе стаялі будкі ахоўнікаў і назіральная вышкі…

Але больш за ўсё кранаюць 510 западзінаў ад мажлівых пахаванняў, у якіх ляжаць парэшткі нашых продкаў, скошаных бязлітаснай касою сталінізму… Кранаюць кветнікі, разбітыя неабыякавымі беларусамі на тэрыторыі Народнага мемарыяла ў памяць пра тых, хто з волі чужынцаў ляжыць на курапацкіх пагорках… Кранаюць знакі пашаны замежнікаў, у тым ліку Лава Клінтана — дар беларускаму народу ад народа ЗША дзеля памяці, польскія сцяжкі як напамін пра тое, што ва ўрочышчы забітыя ўраджэнцы Другой Рэчы Паспалітай…

### Хто і дзеля чаго бывае ў Курапатах?

У Курапатах бываюць розныя людзі. Свядомыя беларусы прыходзяць сюды на талокі і экскурсіі, на традыцыйныя ўшанаванні ахвяраў, якія ладзяцца 29 дня кожнага месяца ў памяць пра трагедыю ў ноч з 29 на 30 кастрычніка 1937 года, калі ў Мінску былі забітыя больш за 100 выбітных прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі. Шмат хто бывае ва ўрочышчы асабіста, а некаторыя — падчас традыцыйнага шэсця на Дзяды. Часцяком наведваюць Курапаты журналісты, палітыкі, праваабаронцы, навукоўцы і замежныя госці. У кожнага з іх — свая місія, але ўсіх аб'ядноўвае жаданне больш ведаць пра Курапаты і нешта зрабіць, каб ні з адным народам свету не адбылася трагедыя кшталту сталінскіх рэпрэсій, ад якіх беларусы да гэтага часу не могуць апрытомнець.

Не раз беларуская моладзь ставіла намёты ва ўрочышчы, каб бараніць яго ад нядобрасумленных дзялкоў, якія з дапамогай хцівага чыноўніцтва імкнуцца забудаваць недакранальную для будаўніцтва тэрыторыю ахоўнай зоны Народнага мемарыяла.

Бывае, што ў Курапатах людзі распальваюць вогнішчы, ладзяць выпіўкі, ездзяць на роварах, выгульваюць сабак, робяць прабежкі… Бывае, што вандалы разбураюць крыжы, малююць на іх і камянях святыні абражальныя сімвалы і надпісы. Усе гэтыя абуральныя праявы не павінны адбывацца на тэрыторыі нацыянальнага некропалю. Дзякуй Богу, апошнім часам такія праявы дэградацыі асобы

радзей маюць месца ў Курапатах, але, на жаль, яшчэ маюць…

## Чаму была створана ініцыятыва «Эксперты ў абарону Курапатаў»?

Пра Курапаты клапоцяцца розныя структуры грамадзянскай супольнасці. Сярод іх — актывісты КХП-БНФ, «Маладога фронту», Руху салідарнасці «Разам», Партыі БНФ, БХД, АГП, іншых апазіцыйных партый і рухаў, а таксама ГА «Хрысціянская злучнасць «Курапаты», грамадзянскіх ініцыятыў «За ўратаванне мемарыялу Курапаты» і «Эксперты ў абарону Курапатаў», якую прадстаўлю і я.

Апошняя ініцыятыва была створаная напрыканцы 2013 года ў адказ на тыя выклікі, што паўсталі перад нацыянальным некропалем і патрабавалі новых, прафесійных падыходаў. Таму наша ініцыятыва аб'яднала прафесіяналаў у розных галінах. Мы дзейнічаем у прававым полі, каб бараніць Курапаты праз суды і СМІ, даследаваць і папулярызаваць гісторыю гэтага месца праз выставы, выданні і прэсу.

Сярод іншых кірункаў дзейнасці — збор дадатковых сведчанняў, пашырэнне ахоўнай зоны Курапатаў, правядзенне міжнароднага конкурсу на лепшы праект мемарыялізацыі гэтага знакавага для беларусаў і грамадзянаў Еўропы месца, а таксама вырашэнне вострых экалагічных праблем, што паўсталі перад Народным мемарыялам, аточаным напружанымі аўтамагістралямі — МКАДам і шашою Заслаўе–Калодзішчы.

Мы супрацоўнічаем з усімі структурамі грамадзянскай супольнасці, калі супрацоўніцтва грунтуецца найперш на павазе да чалавека і ягонай справы, а таксама на жаданні рэальна бараніць Курапаты. Менавіта такое супрацоўніцтва дае плён. Мы запрашаем на нашыя мерапрыемствы прадстаўнікоў усіх структураў грамадзянскай супольнасці, якія працуюць у адпаведнай тэматыцы, а з прадстаўнікамі КХП-БНФ і «Маладога фронту» ажыццяўляем цесную супрацу ў розных кірунках.

## Чаму ўлады пайшлі на мемарыялізацыю Курапатаў?

У тым, што зараз адбываецца вакол Курапатаў, мы бачым добрыя вынікі дзейнасці якраз грамадзянскай супольнасці Беларусі. Калі стваралася грамадская ініцыятыва «Эксперты ў абарону Курапатаў», мы паставілі задачу вярнуць Курапаты ў свядомасць беларусаў.



На гэта скіраваная ўся нашая дзейнасць па юрыдычнай абароне Народнага мемарыяла, даследаванні яго гісторыі і распаўсюду ведаў пра Курапаты, захаванні і пашырэнні ахоўнай зоны гэтай гістарычна-культурнай каштоўнасці міжнароднага значэння, мемарыялізацыі сімвалу трагедыі нацыі.

Сёння, дзякуючы найперш высілкам беларускай моладзі, якая ў чарговы раз абараніла Курапаты ад свавольства чыноўніцтва і дзялкоў, а таксама дзякуючы намаганням іншых структураў грамадзянскай супольнасці, дзяржава ВЫМУШАНАЯ была змяніць сваё стаўленне да Курапатаў і пайшла на прызнанне неабходнасці мемарыялізацыі гэтага месца. Такое прызнанне дарагога каштуе, бо легалізуе Курапаты ў грамадстве і далучае дзяржаўныя СМІ да распаўсюду ведаў пра гэтае лёсавызначальнае для беларусаў месца.

Мы пазітыўна ставімся да магчымай змены адносінаў дзяржавы да Курапатаў, бо гэты крок можа стаць пачаткам грамадскага дыялогу ў краіне, — аднак пакідаем за сабою права супрацы з дзяржавай толькі пры выкананні шэрагу ўмоваў, выкладзеных у адкрытым лісце ад 5 красавіка беларускай грамадскасці да міністра культуры Рэспублікі Беларусь Барыса Святлова.

У гэтым лісце, між іншым, зазначаецца, што амаль трыццаць гадоў ушанаванне, упарадкаванне і ахова Курапатаў адбываліся сіламі прадстаўнікоў і структураў беларускага грамадства. Прычым, як правіла, не толькі без дапамогі дзяржаўных органаў, але часцяком нават насуперак іх намаганням пашкодзіць памятнае месца і прынізіць яго значэнне.

Дзякуючы грамадскім актывістам у Курапатах ужо паўстаў Народны мемарыял. І гэта дае грамадству падставы патрабаваць ад дзяржавы не толькі выконваць яе канстытуцыйны абавязак па ахове помніка, але і абавязкова лічыцца з грамадскай думкай ва ўсіх пытаннях, звязаных з любой дзейнасцю на тэрыторыі ўрочышча і вакол яго.

Таму прапанаваныя дзяржаўнымі структурамі захады дзеля мемарыялізацыі на тэрыторыі матэрыяльнай нерухомай гістарычна-культурнай каштоўнасці «Месца згубы ахвяр палітычных рэпрэсій 30–40 гадоў XX стагоддзя ва ўрочышчы Курапаты» беларускае грамадства зразумее і падтрымае толькі пры выкананні ўмоў, якія б пацвердзілі намер дзяржавы паразумецца з грамадствам.

## Ці магчымая супраца грамадства і ўладаў па Курапатах?

Мы прапанавалі мінімум такіх умоў са спадзевам на ўзважаны і добразычлівы адказ дзяржаўных структур, які зрабіў бы магчымай супрацу па ўшанаванні памяці ахвяраў савецкіх бальшавіцкіх рэпрэсій на тэрыторыі Беларусі. Гэта ўсяго пяць пунктаў.

Перш чым абвяшчаць конкурс на «найлепшы праект памятнага знаку ў Курапатах», дзяржава павінна вызваліць усіх абаронцаў Народнага мемарыяла і грамадзянаў, затрыманых паводле палітычных абвінавачванняў. Бо немагчыма ўшаноўваць памяць ахвяраў палітычных рэпрэсій у абстаноўцы палітычнага тэрору.

Ахоўная зона Курапатаў павінна быць вернутая, дзе гэта фізічна магчыма, да праекту 2003 года і захаваная назаўсёды, каб больш не дапусціць маніпуляцый ёю ў неадпаведных мэтах.

Мемарыялізацыя не можа адбывацца як абстрактны акт «ушанавання ўсіх ахвяраў XX стагоддзя». Дзяржава мае інфармацыю пра тое, хто і кім бязвінна забіты ў Курапатах і іншых падобных мясцінах. Дзяржава абавязаная адкрыць імёны курапацкіх ахвяраў і толькі пасля гэтага мае маральнае права прапаноўваць захады для іх ушанавання.

Курапаты не належаць уладзе Рэспублікі Беларусі ці нейкім дзяржаўным альбо грамадскім структурам. Гэтае святое месца ўсяго беларускага народа. Любы конкурс на праекты помнікаў ці на змену выгляду Курапатаў можа быць або грамадскім (пры магчымым спрыянні дзяржавы), або, калі дзяржава пажадае яго падтрымаць інстытуцыянальна, грамадска-дзяржаўным. Гэта азначае, што фармуляванне ўмоваў творчага спаборніцтва і фармаванне журы павінна праходзіць з удзелам прадстаўнікоў грамадства і грамадскіх структур, найперш тых, хто мае досвед ва ўшанаванні і абароне Курапатаў і нашчадкаў ахвяраў рэпрэсій, а ўсе этапы конкурсу павінны быць адкрытыя для грамадскага абмеркавання.

Падставовыя прынцыпы мемарыялізацыі Курапатаў былі сфармуляваныя беларускай грамадскасцю яшчэ 25 сакавіка 2002 года і пацверджаныя 14 мая 2016 года. Іх абмяркоўвалі і падтрымалі Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, Таварыства беларускай школы, Беларуская асацыяцыя ахвяр палітычных рэпрэсій, Саюз беларускіх пісьменнікаў, суполка «Пагоня» Беларускага саюза мастакоў, Беларуская асацыяцыя журналістаў, прафсаюз РЭП, «Цэнтр Супольнасць» і вялікі шэраг іншых арганізацый, ініцыятыў і дзеячаў. Правілы конкурсу і патрабаванні да ўдзельнікаў не павінны супярэчыць гэтым прынцыпам.

Мы лічым, што выкананне гэтых умоў стала б істотным крокам для грамадзянскага паразумення ў нашай краіне, адкрыла б магчымасць для многіх беларускіх творцаў прыняць удзел у далейшай мемарыялізацыі Курапатаў і гарантавала б дапамогу шырокіх колаў беларускай грамадскасці.

Сярод падпісантаў лісту — старшыня Беларускай асацыяцыі ахвяр палітычных рэпрэсій Зінаіда Тарасевіч, археолаг Валянціна Вяргей, грамадская дзяячка Валянціна Свяцкая, мовазнаўца Вінцук Вячорка, старшыня прафсаюзу РЭП Генадзь Фядыніч, мастакі Мікола Купава, Генадзь Драздоў і Ігар Марачкін, бард Аляксей Галіч і грамадскі актывіст Алесь Макаў.

Мы лічым, што Курапаты з'яўляюцца месцам, якое насамрэч можа аб'яднаць беларусаў дзеля будаўніцтва дэмакратычнай і квітнеючай Бацькаўшчыны. І таму мы ўпэўнены ў пазітыўным вырашэнні сённяшняй сітуацыі вакол Народнага мемарыяла і будзем рабіць усё магчымае, каб не дапусціць чарговага супрацьстаяння ў Курапатах. Апроч таго, мы прыкладзем адпаведныя высілкі, каб па выніках адкрытага Міжнароднага конкурсу на лепшы праект ушанавання ў Курапатах памяці ахвяраў сталінізму Народны мемарыял атрымаў годнае мастацкае абрамленне з улікам беларускіх нацыянальных традыцый і сучасных сусветных падыходаў да помнікаў такога ўзроўню.

## Курапаты — беларускі Майсей

Дагледжаныя, шануемыя, даследаваныя, вывучаныя і вядомыя грамадству Курапаты пачынаюць аддаваць яму свой магутны патэнцыял — Народны мемарыял становіцца Будзіцелем нацыі, своеасаблівым беларускім Майсеем.

Усёй сваёй трагічнай гісторыяй гэты Будзіцель выціскае з беларуса раба, сагнутага над чаркай і шкваркай, уздымае яго да высакароднага, годнага і сумленнага жыцця.

Жыцця, у якім прачынаецца прага да сапраўднай, а не сфальсіфікаванай гісторыі Бацькаўшчыны, да свабоды ад гвалту, які прыгнятае, знявечвае і не дазваляе нам людзьмі звацца, да імкнення быць вольнымі гаспадарамі на зямлі сваіх продкаў, каб перадаць сваім нашчадкам квітнеючую краіну, да будаўніцтва дзяржавы, якая служыць чалавеку і бароніць яго ў цяжкую хвіліну, да штодзённай працы над сабою, калі кожны шукае вытокі сваіх праблемаў не ў іншых, а ў сабе…

І той, хто дайшоў да Курапатаў, урэшце ўсведамляе, што не можа быць моцнай дзяржава, якая забівае сваіх самых лепшых сыноў і дачок — найбольш працавітых, таленавітых і адукаваных. Яны — грунт любога народу. І калі гэты грунт нішчыцца, няма будучыні ў Бацькаўшчыны. З гэтай думкай да людзей прыходзіць асэнсаванне неабходнасці бараніць не толькі памяць пра нашых продкаў, але і стваральнікаў будучыні сваёй краіны.




**На акцыі па ўсталяванні новых крыжоў.** Фота www.bnd.by




**Мемарыяльны знак ад імя народа ЗША ў Курапатах (Лава Клінтана).** Фота www.sputnik.by




Фота www.novychas.by

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### РАСІЯ. Урад постпуцінскай краіны

Незвычайная петыцыя з'явілася на сайце Change.org. Яе ініцыятар — кіраўнік удмурцкай секцыі расійскай апазіцыйнай партыі «Парнас» Руслан Цімуршын. Ён заклікае расіянаў патрабаваць ад лідараў апазіцыі стварыць пераходны ўрад Расійскай Федэрацыі. Сярод адрасатаў і, адпаведна, патэнцыйных сяброў кабінету такія вядомыя фігуры, як Аляксей Навальны, Рыгор Яўлінскі, Міхаіл Касьянаў, Дзмітрый Гудкоў. Як лічыць Цімуршын, стварэнне правобразу пераходнага ўраду неабходна з улікам хуткага краху рэжыму Пуціна, які непазбежны напрыканцы года. Менавіта напрыканцы года ЦВК Расіі афіцыйна адмовіць Навальнаму ў праве балатавацца ў прэзідэнты на выбарах 2018-га, што, маўляў, і справакуе агульнарасійскі пратэст. На думку Цімуршына, паўстане вакуум улады, які можа заняць апазіцыйны ўрад, што возьме на сябе адказнасць за рэформы. У прынцыпе, адрасаты петыцыі ідэю Цімуршына падтрымалі. Нават тыя, хто слаба верыць у рэвалюцыю ў гэтым годзе, пагаджаюцца, што антыпуцінцам трэба мець нейкі агульны праект.

**Паводле расійскай прэсы**

### ФРГ. Актывізуюцца антыглабалісты



Чым бліжэй у Гамбургу саміт лідараў групы «Вялікая дваццатка», тым актыўней праціўнікі глабалізацыі. Некаторыя з іх не абмежаваліся мітынгамі пратэсту. Па ўсёй краіне пракаціліся хваля дыверсій на аб'ектах электраэнергетыкі, адказнасць за якія ўзялі так званыя «аўтаномы» — адна з фракцый руху анархістаў. Усяго акцыі мелі месца прыблізна ў 12 гарадах у розных кутках краіны. За кошт падпалаў рознага кшталту падстанцый радыкалы збіраюцца сарваць правядзенне саміту. На іх думку, сустрэчу могуць адмяніць праз праблемы з электрычнасцю, якія выклікаюць тыя самыя атакі. У сваю чаргу, паліцыя ўжо стварыла аператыўную групу па барацьбе з «аўтаномамі». Хто пераможа ў супрацьстаянні, мы даведаемся ў бліжэйшы панядзелак. Менавіта на панядзелак «аўтаномы» рыхтуюць агульнанацыянальную акцыю, у выніку якой Гамбург павінна агарнуць татальная цемра. Застаецца дадаць, што частка леварадыкалаў лічаць аматараў плану «выключыць Гамбург» правакатарамі паліцыі. Праблемы са святлом хутчэй дыскрэдытуюць рух глабалістаў у вачах простых немцаў.

**Паводле нямецкай прэсы**

### ПАР. Краіна мяняе назву?

У хуткім часе з мапы свету можа знікнуць краіна пад назвай Паўднёва-Афрыканская Рэспубліка (ПАР). За перайменаванне краіны выступае шэраг лідараў урадавай партыі «Афрыканскі нацыянальны кангрэс» (ANC). На думку актывістаў ANC, назва «Паўднёва-Афрыканская Рэспубліка» — прадукт каланіяльнага часу (сапраўды, такая дзяржаўная фармацыя з'явілася ў часы панавання тут Брытанскай імперыі). Каб часткова парваць з клятым каланіяльным мінулым, ANC прапануе называць краіну «Азанія». Менавіта так называўся рэгіён на поўдні Афрыкі да прыходу сюды еўрапейскіх каланізатараў. Нягледзячы на экстравагантнасць прапановы, яе рэалізацыю выключаць нельга. Суседнія Зімбабвэ і Намібія да атрымання незалежнасці мелі іншыя назвы. З другога боку, пакуль аматарам афрыканскай спадчыны не да назвы краіны. Зараз усе праціўнікі каланіялізму вядуць кампанію за новую назву гораду Дурбан, які калісьці быў названы ў гонар брытанскага губернатара. Замест Дурбана называць горад прапануецца вельмі нязручным для еўрапейцаў словам «еТэквін» (eThekwin).

**Паводле амерыканскай прэсы**

### БАЛГАРЫЯ. Хто прыдумаў глаголіцу?

Балгарская грамадскасць не знаходзіць сабе месца. Усё праз рэпліку Уладзіміра Пуціна падчас рандэву са сваім македонскім калегам, якое адбылося яшчэ 25 мая. Расійскі лідар сказаў, што вельмі рады вітаць госця з Македоніі, дзе нарадзілася кірыліца. Між тым, у Балгарыі лічыцца аксіёмай, што алфавіт глаголіцу — правобраз кірыліцы, — браты Кірыл і Мяфодзій прыдумалі ў IX стагоддзі на балгарскай тэрыторыі, у склад якой уваходзіла цяперашняя Македонія. Таму не дзіўна, што ў мясцовай прэсе Пуціна называюць невукам. Іншыя бачаць у словах кіраўніка Расіі спробу выклікаць супярэчнасці паміж балгарамі і македонцамі і стварыць новы полюс напружанасці ў Еўропе. Найбольш далёка ідуць у абароне версіі пра балгарскае паходжанне кірыліцы мясцовыя нацыяналісты. Яны прапануюць, каб урад урачыста абвясціў аўтараў глаголіцы і кірыліцы этнічнымі балгарамі. Апошнім часам да спрэчкі падключыліся грэкі, якія ўзгадалі, што Кірыл і Мяфодзій прыдумалі алфавіт па патрабаванні імператара Візантыі.

**Паводле брытанскай прэсы**




Фота www.univision.com

# Кубінскі фронт Трампа

Алег НОВІКАЎ

**Як вядома, Дональд Трамп зноў адкрыў амерыкана-кубінскі фронт — абвясціў пра перагляд амерыкана-кубінскай дамовы, якую заключыў з братамі Кастра яго папярэднік Барак Абама.**

У 2015 годзе падчас гістарычнага візіту на востраў Свабоды, візіту, які паклаў канец працягламу амерыкана-кубінскаму канфлікту, Барак Абама вельмі шмат казаў пра новую эру ў адносінах паміж краінамі. У доказ сваіх словаў Абама нават спрабаваў па-сяброўску абняць Рауля Кастра, які, аднак, ад абдымкаў устрымаўся. Яго жэст прэса трактавала як праяву недаверу да прыгожых словаў янкі.

Рауль меў рацыю. Дональд Трамп абвясціў пра перагляд вынікаў кубінскага візіту Абамы. На яго думку, санкцыі трэба захаваць, пакуль Куба не будзе адпавядаць шэрагу дэмакратычных стандартаў.

Нягледзячы на рашучасць Трампа, крыніцы кажуць, што пра вяртанне часоў жорсткага эмбарга гаворкі не ідзе. Афіцыйны прадстаўнік Белага дома на ўмовах ананімнасці паведаміў «The Associated Press», што ўнутраныя дыскусіі па пытаннях палітыкі адносна Кубы ў асноўным тычацца інвестараў. У Вашынгтоне будуць намагацца не дапускаць інвестыцый у кубінскія кампаніі, якія звязаныя з GAESA — кубінскім холдынгам, блізкім ды мясцовага ВПК. Магчыма, некаторым катэгорыям амерыканскіх дзяржаўных службоўцаў забароняць наведваць вотчыну Кастра як турыстам.

Пры гэтым, як і зараз, можна будзе пераводзіць на Кубу сродкі. Не збіраецца Трамп зачыняць і пасольства ЗША ў Гаване. Не кажучы ўжо пра тое, што ніхто не будзе, як у старыя часы, канфіскоўваць на амерыканскай мытні кубінскія ром і цыгары. Пра нежаданне Трампа ваяваць з Кубай усур'ёз сведчыць і адмова Белага дома вяртаць кубінцам міграцыйныя льготы, якія скасаваў Абама.

Не дзіўна, што многія палітолагі падазраюць Трампа ў намеры разыграць кубінскую карту, каб прыцягнуць на свой бок частку рэспубліканцаў, сярод якіх хапае антыкастрыстаў. Сярод іх — уплывовы сенатар кубінскага паходжання Марка Рубіа.

І ўжо зараз можна казаць, што гэта быў памылковы крок амерыканскага кіраўніка. Нават у асяроддзі кубінскай эміграцыі ідэя вярнуць санкцыі выклікала незадаволенасць. Як піша прэса, частка камуны лічыць, што змены на Кубу можна прынесці менавіта праз пашырэнне кантактаў з замежжам. Прычым, да групы самых вялікіх прыхільнікаў лібералізацыі адносінаў з Кубай належаць маладыя мігранты. Юнакі мараць выкарыстаць адкрыццё кубінскага рынку для самарэалізацыі.

Незадаволены Трампам і амерыканскі бізнес. Аграрыі, пасля візіту Абамы, пачалі будаваць планы заваліць кубінцаў харчамі аж на мільярд долараў штогод. Паклалі вока на Кубу і ўладальнікі гатэльнага бізнесу. Аднак, хутчэй за ўсё, найбольш пацярпіць кампанія Google. Яна не так даўно з вялікай помпай адкрыла кубінскі офіс і марыла стаць лідарам мясцовых тэлекамунікацый.

Крытыкуючы рашэнне Белага дома, бізнесоўцы звяртаюць увагу на ўнікальнасць цяперашняй кубінскай сітуацыі. Сёння яе можна параўнаць з нашымі 1990-мі гадамі, калі актыўна ішоў працэс падзелу рынка. Калі амерыканцы праз Трампа будуць «тармазіць», то самыя тлустыя шматкі дастануцца іншым. Бразілія ўжо ўклала мільярд долараў у будаўніцтва на Кубе новага марскога порта.

Што тычыцца праваабаронцаў, то, паводле апошніх, палітыка ізаляцыі толькі ўзмацніць фракцыю аматараў жорсткай лініі ў кіраўніцтве Кубы. Сапраўды, Гавана адрэагавала вельмі рашуча. Адміністрацыя Рауля Кастра адразу асудзіла «варожую рыторыку» Трампа, расцаніўшы яе як замах на кубінскі суверэнітэт. «Любая стратэгія з намерам змяніць палітычную, эканамічную і сацыяльную сістэму на Кубе будзе асуджаная на правал», — падкрэсліваюць у ведамстве Кастра.

Кубінскія карэспандэнты замежных медыя паведамляюць, што простыя кубінцы таксама не зразумелі ідэі Трампа. Як піша прэса, шмат хто паверыў, што замежны турызм зможа падняць іх дабрабыт. Для даведкі: у 2016-м краіну наведалі 285 тысяч турыстаў, што на 75 працэнтаў больш, чым у 2015 годзе. Больш за палову гэтых турыстаў складалі амерыканцы.

Можна зрабіць выснову, што выхадкі Трампа, хутчэй, спрыялі кансалідацыі і стабілізацыі кубінскага рэжыму. Аднак пра канчатковую перамогу пакуль казаць нельга. Куба знаходзіцца напярэдадні цяжкіх часоў праз эканамічны і палітычны крызіс у суседняй Венесуэле, за кошт якой цалкам вырашалася энергетычная праблема, а бюджэт папаўняўся на 20 працэнтаў. Пакуль не зразумела, хто здолее выступіць у ролі новага фундатара Гаваны. Згадваюць Пекін, аднак вялікага інтарэсу да Кубы ў кітайцаў не назіраецца. Як следства, нават расійская прэса дапускае тэзіс: «У стратэгічнай перспектыве ў Гаваны няма іншага выбару, акрамя як вярнуцца, пасля шматгадовай паўзы, у арбіту Вашынгтона».

Аглядаючы рэакцыю на антыкубінскія ініцыятывы Трампа, нельга прайсці міма цікавай версіі. На думку яе адэптаў, на дэмарш супраць Кубы Трампа падштурхнулі вынікі плебісцыту ў Пуэрта-Рыка — суседнім востраве, чый афіцыйны статус ужо стагоддзе як размыты (выспа была захопленая амерыканцамі падчас вайны з іспанцамі ў 1898 годзе, аднак тэрыторыяй ЗША не стала). 11 чэрвеня 2017 года там адбыўся ўжо пяты рэферэндум, на якім 97% выбаршчыкаў выказаліся за тое, каб Пуэрта-Рыка стала 51-м штатам ЗША. Маўляў, у Вашынгтона ёсць падступны план — паступовае інтэграванне суседняй з Кубай карыбскай выспы стане для кубінцаў свайго роду дэманстрацыяй культурна-палітычнай альтэрнатывы.

# Макрон — не Мітэран

Алег НОВІКАЎ

**Французскі прэзідэнт Эмануэль Макрон атрымаў 18 чэрвеня абсалютную перамогу на парламенцкіх выбарах і запусціў канчатковы працэс перазагрузкі Пятай рэспублікі. Што можа паўстаць на рэштках старой палітычнай сістэмы? Пра гэта НЧ распавядае французская прафсаюзная актывістка Наталі Пізан.**



Фота www.20minutes.fr

***— По выніках выбараў партыя Макрона «Наперад, Рэспубліка» (LRM) разам з саюзнікамі-цэнтрыстамі атрымала 360 месцаў у парламенце, дзе засядаюць 577 дэпутатаў. Гэта рэкордны вынік для партыі за ўсю гісторыю Пятай рэспублікі. Раней ніводная палітычная сіла так упэўнена не перамагала. Аднак каментары ў медыя не падобныя на трыумфальныя. Напрыклад, «Le Monde» піша: «Абсалютная большасць і адносная перамога». Адкуль такія асцярожныя ацэнкі?***

— Думаю, праз тое, што на гэтых выбарах быў пастаўлены іншы рэкорд. Ніколі ў гісторыі Пятай рэспублікі яўка на выбарах не была такой нізкай: 57 працэнтаў выбаршчыкаў у дзень галасавання засталіся дома. Такая лічба яўна не адпавядае агіткам LRM пра тое, што французскае грамадства пабачыла ў Макроне месію, рашуча паўстала супраць папулізму, зрабіла выбар на карысць ідэі еўраінтэграцыі. Наадварот, праз абыякавасць выбаршчыкаў паўстала скандальная сітуацыя, калі 70 працэнтаў парламентароў прадстаўляюць 13 працэнтаў электарату, які галасаваў за LRM. Па факце, Макрон перамог за кошт недасканаласці выбарчай сістэмы, адсутнасці адзінства ў шэрагах апазіцыі і фрустрацыі электарату. Трывожным для новаабранага прэзідэнта выглядае і тэндэнцыя: яшчэ за тыдзень да выбараў сацыялагічныя апытанні давалі партыі Макрона больш за 400 мандатаў.

***— Поспех партыі Макрона таксама незвычайны, паколькі яшчэ 14 месяцаў таму такой партыі, як «Наперад, Рэспубліка» ў Францыі ўвогуле не існавала. У сувязі з гэтым, які сацыялагічны партрэт дэпутата ад LRM?***

— Сярод дэпутатаў можна вызначыць прыкладна тры групы. Адна — адносна маладыя актывісты грамадскага сектару. Другая — прадпрымальнікі. Трэцяя — «мігранты» з іншых партый, якія, дарэчы, ахопліваюць увесь палітычны спектр: ад «Зялёных» і сацыялістаў да экс-неафашыстаў з «Нацыянальнага фронту». Напэўна, найбольш вядомая з перабежчыц — Наталі Касцюшка-Марызэ, былы міністр у адміністрацыі прэзідэнта-рэспубліканца Нікаля Сарказі, на якую на днях быў зроблены напад. Як бачым, дэпутацкая фракцыя Макрона — сапраўдны кактэйль. Аднак, на думку прэсы, апошняе слова падчас рашэнняў застанецца за групай бізнесоўцаў.

**Парламенцкія прамовы апазіцыянераў могуць быць вельмі пераканаўчымі, але пратэст, які прымусіць уладу прыслухацца, перамяшчаецца на вуліцу**

***— Гледзячы на выніку выбараў, роля галоўнай апазіцыі Макрону дасталася галістам?***

— Галісты нейкім цудам, у апошні момант, выратавалі твар, атрымаўшы салідную фракцыю ў прыкладна 130 мандатаў. Аднак асноўную праблему — праблему сваёй ідэнтычнасці адносна Макрона — яны так і не вырашылі. Макрон дублюе шмат старых напрацовак рэспубліканцаў, значная частка якіх ужо падалася ў лагер LRM. Магчыма, таму рэспубліканцы абмяркоўваюць варыянт жорсткай апазіцыі да прэзідэнта. Але самае трывожнае для рэспубліканцаў (як, дарэчы, і для ўсіх партый парламенцкай апазіцыі) — тое, што ў Макрона абсалютная дэпутацкая большасць. Парламенцкія прамовы апазіцыянераў могуць быць вельмі яскравымі і пераканаўчымі, аднак сапраўдны пратэст, які здольны прымусіць уладу прыслухацца, цяпер перамяшчаецца на вуліцу.

***— У расійскіх медыя ледзь не жалоба па кволых выніках «Нацыянальнага фронту», які адкрытым тэкстам называюць лабістам Крамля. Чаму партыя Марын Ле Пэн — палітыка, які атрымаў на прэзідэнцкіх выбарах каля 35 працэнтаў, — на парламенцкіх сабрала такі сціплы ўраджай — усяго 6 мандатаў?***

— Ёсць думка, што слабая падтрымка Ле Пэн тлумачыцца асаблівасцямі псіхалогіі яе выбаршчыка, якому трэба ўсё і адразу. Парламенцкія выбары, у адрозненне ад прэзідэнцкіх, гэтаму падыходу не пасуюць. Нягледзячы на слабы фінал, палітычны сезон 2016–2017 Ле Пэн можа смела запісаць сабе ў актыў. Сябры «Нацыянальнага фронту», якіх учора аднагалосна лічылі антысемітамі і фашыстамі, сталі рукапацiскальнымі ў вачах грамадства.

Важна таксама адзначыць, што акрамя Ле Пэн у парламент прарваліся радыкальныя левыя з руху Жан-Люка Меленшона. Напэўна, упершыню мы назіраем канфігурацыю, калі асноўнымі апазіцыянерамі ўрадавай партыі могуць стаць не памяркоўныя сілы, а радыкалы. Памяркоўная апазіцыя канцэптуальна пакуль не знайшла сябе ў новых умовах. І перш за ўсё гэта тычыцца левага цэнтру, а дакладней, сацыялістаў. Іх квота ў парламенце скарацілася з 245 да 46 мандатаў. Лідары кажуць, што ў 1960-х, да прыходу Франсуа Мітэрана, былі і горшыя паказнікі, аднак адкуль зараз возьмецца новы Мітэран — незразумела.

***— Так ці інакш, у Макрона абсалютная дэпутацкая большасць і, адпаведна, картбланш на рэформы, якія ён абяцаў падчас выбарчай кампаніі. Што можна чакаць ад Елісейскага палацу ў бліжэйшы час?***

— У адрозненне ад папярэдніх прэзідэнтаў, якія асцярожна ставіліся да радыкальных пераменаў, азіраліся на свой базіс, шукалі кампрамісы, Макрон алергіі на гэты конт не мае. З улікам дыскусіі ў блізкай да яго бізнес-прэсе, відавочна, што перш за ўсё прэзідэнт прапануе даўно абяцаную працоўную рэформу. Яна, калі казаць у двух словах, дазволіць прадпрымальнікам больш эластычна рэагаваць на рынкавую кан'юнктуру за кошт інтарэсаў наёмнага персаналу. Таму няма сумневаў, што ў верасні нас чакаюць прафсаюзныя пратэсты, якія дакладна падтрымае ўвесь апазіцыйны бамонд. Шмат у каго сёння зуб на Макрона.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Ана Брнабіч



Прэзідэнт Сербіі Аляксандр Вучыч прадаставіў мандат на фарміраванне ўрада краіны 41-гадовай Ане Брнабіч. Гэтае рашэнне ў многім унікальнае для Балкан: упершыню ўрад у вельмі кансерватыўнай праваслаўнай краіне з моцнымі пазіцыямі царквы ўзначаліць жанчына нетрадыцыйнай сексуальнай арыентацыі, да якіх сябе адносіць Ана.

Акрамя таго, незразумелыя матывы яе прызначэння. Скончыўшы адукацыю спачатку ў ЗША, затым у Брытаніі, Брнабіч без асаблівых поспехаў працавала ў структурах заходніх арганізацый у Сербіі, пакуль не атрымала партфель міністра лакальнага і мясцовага самакіравання, адкуль і выправілася ў крэсла прэм'ера. Як следства, не ўсе абаронцы правоў ЛГБТ задаволеныя прызначэннем Аны. На іх думку, яна стала пешкай у гульні Вучыча, які з часоў Мілошавіча ўмудраецца заставацца пры ўладзе ў Бялградзе. Апошняму, маўляў, наогул не патрэбны моцны і ўплывовы кіраўнік урада. Затое сексуальная арыентацыя Брнабіч, як ён спадзяецца, будзе ўспрынятая (і ўжо ўспрынятая) у Еўропе як «прагрэс у развіцці дэмакратыі ў Сербіі».

Пры гэтым сама па сабе постаць Брнабіч наўрад ці будзе асабліва раздражняць кансерватыўнае сербскае грамадства, бо яна ніколі не ўдзельнічала ў гей-парадах і больш за ўсё, паводле яе словаў, любіць прыбіраць на кухні.

Аднак не ўсе ўпэўненыя, што Брнабіч пагодзіцца на ролю нямой марыянеткі Вучыча — хаця б таму, што з'яўляецца сябрам уплывовага экспертнага клуба EWB, створанага ў 1973 годзе Дэвідам Ракфелерам і Збігневым Бжэзінскім.

### Карэн Хандэль



Кандыдатка ад Партыі рэспубліканцаў на выбарах у амерыканскім штаце Джорджыя выклікала фурор у Белым доме. Праз прызначэнне мясцовага дэпутата на пасаду міністра ў Джорджыі праводзіліся пазатэрміновыя выбары. Карэн перамагла праціўніка ад дэмакратаў.

У ЗША выбары ў Джорджыі разглядалі ледзь не як плебісцыт наконт курсу Трампа, які асабіста рэкламаваў Карэн. У гэтым плане не дзіўна, што ў выбарчыя штабы кандыдатаў былі ўкладзеныя фантастычныя сумы — агулам да 57 мільёнаў долараў. Эйфарыі камандзе Трампа дадалі навіны з Паўднёвай Караліны, дзе перамог яшчэ адзін рэспубліканец, які таксама пазіцыянаваў сябе як адэпт прэзідэнта.

Усё гэта дазваляе казаць, што відавочныя правалы Трампаўскай адміністрацыі не моцна паўплывалі на настроі на месцах. Іншымі словамі, прыход Трампа ў Белы дом — не выпадак, а свядомы выбар кансерватыўнай правінцыйнай Амерыкі, які ў будучым моцна паўплывае на профіль рэспубліканцаў. Так ці інакш, пазіцыі Трампа ў амерыканскім істэблішменце ўзмацніліся.

Што тычыцца дэмакратаў, яны спадзяюцца на парламенцкіх выбарах у наступным годзе вярнуць сабе большасць у ніжняй палаце. Падставы для такіх мараў ёсць: дэмакрат-кандыдат саступіў Карэн усяго 4 працэнты. Тым не менш, нельга не ўзгадаць, што дэмакраты ў гэтым годзе прайгралі ўсе пазатэрміновыя выбары.

### Алег Беразюк



Лідар фракцыі партыі «Самапоміч» ва ўкраінскай Вярхоўнай Радзе пайшоў нават па мерках цяперашняй Украіны на беспрэцэдэнтны крок — абвясціў галадоўку на парозе прэзідэнцкай адміністрацыі. Сваёй галадоўкай Беразюк выказвае пратэст супраць «здзекаў з Львова», дзе ўжо больш за год існуе праблема з утылізацыяй смецця.

Львоў сутыкнуўся з праблемай утылізацыі смецця пасля таго, як быў закрыты сметнік каля горада. Прычынай гэтага рашэння стаў пажар, падчас якога загінулі людзі. Падавалася, праблема горада дзякуючы галадоўцы Беразюка перарасла ў нацыянальную тэму нумар адзін, пасунуўшы на другое месца нават візіт Парашэнкі ў Злучаныя Штаты. Справа ў тым, што адначасова бакі канфлікту пачалі публікаваць узаемны кампрамат. Напрыклад, у Садавога — мэра Львова і лідара партыі «Самапоміч», дэманструюць цыркуляры ўраду, які забараняе сметнікам у іншых гарадах прымаць адкіды з Львова. У «Самапомічы» нават кажуць, што Парашэнка наўмысна хоча давесці сітуацыю да крытычнай, каб абвясціць у Львове надзвычайнае становішча. Гэта будзе азначаць, што традыцыйна вельмі палітызаваныя і свядомыя львавяне не змогуць удзельнічаць у выбарах, на якіх Парашэнку нічога не свеціць.

Закладнікам гэтага канфлікту, безумоўна, стаў сам Львоў, чый турыстычны імідж яўна пагоршыўся. Між тым, скандал працягваецца. Садовы нават не выключыў варыянту эвакуацыі дзяцей з гораду праз пагаршэнне эпідэміялагічнай сітуацыі.

# Загадка Давіда Кеймаха

Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ

**Гісторыя забойства гаўляйтара Вільгельма фон Кубэ дастаткова асветленая ў айчыннай гістарыяграфіі. Але па некаторых эпізодах дасюль няма пэўнасці. Гэта забойства, па словах пісьменніка Анатоля Валахановіча, парасло «рознымі міфамі, легендамі, паданнямі, былямі, былічкамі».**



**Давід Кеймах.** Фота Галіны Каржанеўскай



**Музей партызанскай славы ў Янушкавічах.** Фота Галіны Каржанеўскай

**Угаварыць Алену Мазанік на замах было складанай задачай. Жанчыну мучылі маральныя пакуты: «Як я магу забіць майго добрага генерала? Я ж і курыцу не магу зарэзаць»**

## Кубэ і Сталін

Навошта Сталіну спатрэбілася забіваць генеральнага камісара Беларусі і чаму вакол падзеі пасля паднялося столькі каламуцi?

Пытанне гэта для дзядулі Фрэйда. Безумоўна, адказнасць за здадзеную ворагу савецкую тэрыторыю і буйныя паразы на савецка-германскім фронце цалкам ляжыць на генеральным сакратары ЦК КПСС, які падмяў і партыю, і ўсе органы кіраўніцтва Савецкім Саюзам. Калі не на ўзроўні сумлення, то на ўзроўні логікі Сталін не мог не ўсведамляць сваёй адказнасці. Кубэ заплаціў жыццём не за тое, што быў больш жорсткім, скажам, за «галоўнага эсэсаўца» Курта фон Готберга, — ён заплаціў за сваю пасаду. Бо ўвасабляў сабой нямецкую адміністрацыю на значнай частцы акупаванай тэрыторыі.

Для цывільных жыхароў Мінска помста намесніку Гітлера абышлася дорага. Называюць лічбу да дзесяці тысяч павешаных і расстраляных. Акрамя таго, выканаўцы зрабілі падарунак СС і СД, з якімі генеральны камісар быў, што называецца, на нажах. Ён пастаянна пісаў на іх скаргі і данясенні ў Вермахт. Аўтары кніг, прысвечаных ліквідацыі Кубэ, Анатоль Валахановіч і Леанід Зубараў сцвярджаюць, што гаўляйтар пратэставаў супраць «варварскіх метадаў» акупацыі Беларусі, быў праціўнікам забойства яўрэяў (асабліва прывезеных з Рэйха), цаніў іх майстравітасць і даваў працу. «Кубэ не разумее нашых задач», — гаварыў Гімлер.

## Аперацыя «Кабан»

Гісторыя аперацыі «Кабан» пачыналася на Лагойшчыне, бліз Янушкавічаў. У Руднянскім бары размяшчалася база атрада «Дзімы», які вырас з разведвальна-дыверсійнай групы. Вакол такіх груп (іх называлі спецгрупамі) у Лагойскім і былым Плешчаніцкім раёнах сфарміравалася нямала партызанскіх атрадаў. У атрадзе «Дзімы» ваявалі будучыя настаўнікі Янушкаўскай школы: Уладзімір Рыбчык і Іосіф Марцынкевіч. Сувязной атрада была Гелена Ляшчынская, якая толькі ў 1970-я з дапамогай сына, ваеннага журналіста, атрымала статус удзельніцы вайны.

Сапраўднае імя камандзіра атрада — зусім не Дзіма, а Давід Ільіч Кеймах. Адэсіт быў закінуты на акупаваную зямлю Галоўным разведупраўленнем Генштаба Чырвонай Арміі. Насампрэч, Кеймаха закідвалі ў Беларусь двойчы. Першы раз — з паплечнікам і сябрам Рыгорам Ліньковым у верасні 1941-га. Адпраўляць разведчыкаў на зіму, без дастатковай падрыхтоўкі і ведання сітуацыі, было памылкай. І дэсант сапраўды аказаўся няўдалым. З васьмі самалётаў з-за моцнага ветру два павярнулі назад, чатыры збіліся з курсу. Загінула радыстка, двое трапілі ў палон. Толькі праз месяц знайшоўся Ліньkоў. Ён і прыняў рашэнне: Кеймаху, у якога абвастрыўся туберкулёз, з групай партызанаў прабівацца да сваіх.

У сакавіку 1942 года ГРУ закінула разведчыка ў беларускія лясы паўторна. З Халапенецкага раёна ён перайшоў на Лагойшчыну і ваяваў у атрадзе пад камандаваннем Васіля Шчарбіны. Калі той праводзіў заняткі, здарылася бяда: у руках узарвалася міна. Загінула група маладых падрыўнікоў. Кеймаха прызначылі камандзірам. У тым жа годзе ён атрымаў званне капітана. У пачатку 1943-га быў узнагароджаны ордэнам Леніна.

Усе бліжэйшыя паселішчы адносіліся да Барысава-Бягомльскай партызанскай зоны. Атрадныя разведчыкі і радысты спыняліся ў вёсцы Бабры. Вясковыя жыхары забяспечвалі байцоў усім неабходным. Многія мелі пастаянны абавязак: неслі начную варту, пяклі хлеб, раманталі абутак, тапілі лазню. Жыхарка вёскі Любоў Ваўчок ведала і самога Кеймаха, і яго жонку. З іх дачкой-аднагодкай Люба не раз гуляла, партызаны вучылі дзяўчынак ездзіць на малым коніку.

## Кеймах і Осіпава

«Дзімаўскі» атрад, як і атрад «Бальшавік», меў цесныя сувязі з мінскім падполлем. Менавіта Кеймах здолеў прыцягнуць да падрыхтоўкі замаху на Кубэ Марыю Осіпаву — што і прадвызначыла поспех справы. У архіўных дакументах Осіпава афіцыйна лічыцца не толькі падпольшчыцай, але і партызанкай атрада «Дзімы».

З асобай камандзіра і самім атрадам звязана некалькі загадак ваеннага часу. Адна з іх — чаму загінулага перад спецаперацыяй камандзіра «забылі» пры раздачы ўрадавых узнагарод. А галоўнае — чаму імя камуніста, разведчыка, ардэнаносца Давіда Кеймаха вы не знойдзеце ні ў адной савецкай энцыклапедыі, прысвечанай Вялікай Айчыннай вайне. Па невядомай прычыне, яно выкраслена з гісторыі ВАВ (партызанскай дзейнасці ў даведачнай літаратуры ўвогуле выдзяляецца мінімальная колькасць тэксту).

Не знаходзіла я імя Кеймаха і ў салідным выданні «Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков» («Беларусь», 1983–1985). Сапраўдная прозвішча «Дзімы» там вынесена дробным кеглем у спасылку — з тым, каб не выпала іншае партызанскае падраздзяленне і пры гэтым не спатрэбілася выносіць прозвішча ў імянны ўказальнік. Заслуга ліквідацыі генеральнага камісара Беларусі прыпісваецца нейкаму безназоўнаму «гарадскому падполлю», а вёска Бабры (што самае дзіўнае) прыпісваецца да Барысаўскага раёна.

Між тым маем сведчанне ад кіраўніка Барысаўска-Бягомльскага партызанскага злучэння, двойчы героя Рамана Мачульскага. «Райкомаўцы і партызаны Лагойшчыны жылі ў тыя дні радаснай весткай: у спецатрада «Дзімы», які размяшчаўся ў тутэйшых лясах, атрымалася расправіцца з катам беларускага народа, «генеральным камісарам» Беларусі Вільгельмам Кубэ. Гэтая складаная аперацыя была распрацавана камандзірам спецатрада Давідам Ільічом Кеймахам сумесна з начальнікам штаба атрада Дзмітрыем Фёдаравічам Чупрысам і начальнікам разведкі і контрразведкі Якавам Іванавічам Свентаржыцкім».

Кеймах разам са Свентаржыцкім якраз і сустракаліся з Марыяй Осіпавай, якая лічыла сябе галоўнай фігурай гучнага — як сказалі б сёння — тэракту.

## Осіпава і Мазанік

З пачатку лютага 1943-га разведчыкі, падпольшчыкі і партызаны палявалі на Кубэ. Справа не ішла. Кубэ не з'яўляўся ў патрэбным месцы і ў патрэбны момант, як быццам яго берагла вышэйшая сіла.

Угаварыць Алену Мазанік на замах было складанай задачай. Жанчыну мучылі маральныя пакуты: «Як я магу забіць майго добрага генерала? Я ж і курыцу не магу зарэзаць». Яна шкадавала цяжарную жонку свайго «татачкі», якая добра да яе ставілася і абяцала забраць у Германію. Сувязную Надзею Траян яна лічыла правакатаркай і не давярала ёй. Тая сама ўсё сапсавала: прапаноўвала грошы.

На пакаёўку насядалі з розных бакоў: угаворвалі, застрашвалі, перадавалі прывітанні ад мужа. Адна група пераходзіла дарогу другой, але да Мазанік падабрацца не маглі: яна была занадта асцярожнай. З дапамогай роднай сястры Алены Валянціны Шчуцкай, праз дырэктара мінскага кінатэатра Мікалая Пахлябаева Осіпаву наўпрост выводзяць на «Грос Галіну», яны сустрэліся.

Праект быў дужа рызыкоўным. Мазанік баялася не толькі за сябе, але і за родных. Калі жанчыну нарэшце ўламалі, заставалася не менш важная частка — даставіць у асабняк гаўляйтэра выбуховае прыстасаванне. Магнітную міну падрыхтавалі «дзімаўцы». Перадалі яе Осіпавай у Янушкавічах, у хаце Вярбіцкіх, на месцы якой збудаваны музей партызанскай славы (там устаноўлены памятны знак-валун). Навучыў карыстацца ёй камандзір групы падрыўнікоў Пётр Трашкоў. Осіпава з сяброўкай праз Саўдзеневічы панесла англійскую «цацку» ў горад.

У дакументальных фільмах розных часоў існуе неверагодная блытаніна наконт факта, хто ж усё-такі дабраўся да Кубэ. У адной са стужак лаўры прыпісваюць Лапаціну (атрад «Дзядзі Колі») і над іншымі фігурантамі справы прыўзнімаецца фаварытка Кубэ доктарка Тацццяна Каліта. Каліту лічыў несправядліва абыдзеннай і Валахановіч, аўтар кнігі «Узлёты і падзенні Вільгельма Кубэ: яго бачанне будучыні Беларусі». Між тым медычка была выстаўлена з асабняка Анітай Кубэ яшчэ ў маі 1943-га і ў далейшых падзеях удзельнічаць не магла.

У другім опусе (расійскай вытворчасці) двойчы ўпамінаюць прадстаўніка 4-га Упраўлення Мікалая Хахлова, які беспаспяхова спрабаваў схіліць на свой бок пакаёўку гаўляйтара. Навідавоку няўдалая спроба вядомага ведамства падабраць крошкі ад чужога пірага, бо ўрэшце «расстрэльная кантора» засталася ні з чым. Затое аказаліся жывучымі міфы, гэтай канторай створаныя. Зноў і зноў нас імкнуцца пераканаць, што спецгрупа на Рудні адносілася да сістэмы НКУС і што партызаны «тут блізка не ляжалі». (Так у тэксце. — Г.К.)

**Заканчэнне ў наступным нумары**



Бронзавы барэльеф з радаводам Вайніловічаў

Алесь КІРКЕВІЧ

# Эдуард Вайніловіч: «Свой сярод чужых, чужы сярод сваіх»

**Хто такі Эдуард Вайніловіч, імя якога хочуць надаць скверу за Чырвоным касцёлам у Мінску, праз якога ўжо паспелі пасварыцца чальцы БХД і камуністы? НЧ прапануе свой погляд на ягоную асобу.**



Эдуард Вайніловіч

Паводле апошніх сведчанняў, справа з наданнем імя Вайніловіча скверу мае ўсё ж такі вырашыцца пазітыўна: такі варыянт падтрымаў нават Мінгарвыканкам. Гэтаму папярэднічалі шматлікія звароты вернікаў, дыскусіі сярод гісторыкаў, публікацыі ў «СБ», спрэчкі паміж камуністамі з партыі Калякіна ды хадэкамі на чале з Севярынцам.

Хто ж такі Вайніловіч? Ягонае імя наўрад ці можна пералічваць сярод «забытых» дзеячаў нашай мінуўшчыны, разам з тым яно мае ўсе шансы патрапіць у спіс «недаацэненых» асобаў. Большасць ведае, што менавіта ён стаў фундатарам пабудовы Чырвонага касцёла, але ці ўсё на гэтым? «Патрыёт, прыхільнік еўрапейскага выбару, гаспадар, вернік, дабрачынца», — так нядаўна напісаў пра яго краязнаўца Кастусь Шыталь. Давайце разбірацца па пунктах.

## Рэвалюцыянер, які не адбыўся

На момант пачатку Паўстання 1863-га Вайніловіч меў пятнаццаць гадоў і навучаўся ў Слуцкай гімназіі. У той час узнёслыя патрыятычныя настроі ахапілі не толькі Захад, але і цэнтральную частку ды нават раёны Усходняй Беларусі. Аб тым, што паўстанне належным чынам не падрыхтаванае і можа апынуцца бойняй ды катастрофай для ўсяго краю, мабыць, задумваўся далёка не кожны.

Гучыць неймаверна, але ў паўстанцы падлетка Вайніловіча хацела адправіць... маці! Атрымалася па-іншаму: калі ў Савічы, радавое гняздо Вайніловічаў, заявіліся паўстанцы, каб рэкрутаваць да сябе баяздольных мужчынаў, Эдуарда наўпрост не было дома, а да інсургентаў далучыўся адно пісар з таго ж маёнтку. Відаць, часовая адсутнасць Эдуарда была знакам Лёсу: Слуцкі атрад быў неўзабаве разбіты, пісар арыштаваны, а канфіскацыя маёнтку Вайніловічаў перашкодзіла толькі заступніцтва дзядзькі Эдуарда Тадэвуша Вайніловіча, тагачаснага слуцкага павятовага маршалка.

## Прыхільнік Еўропы, чалавек новага кшталту

Вайніловіч ніякім чынам не ўпісваўся ў стэрэатыпы пра «аджываючую» шляхту, якая жыве адно ўспамінамі пра мінулае, што апісана як у «Вішнёвым садзе» Чэхава, так і ў «Пінскай шляхце» Дуніна-Марцінкевіча. Гэта быў чалавек цалкам новай фармацыі, які разумеў: акрамя шляхецкай годнасці патрэбны здаровы капіталістычны разлік.

Пасля навучання ў Пецярбургу, ён праходзіў стажыроўку на заводзе па вырабу лакаматываў Штросберга ў Гановеры, а з 1870-га працаваў памочнікам машыніста лакаматыва на чыгунцы Брусэль–Аквізгран. «Узважыўшы тую маю папярэднюю працу, тыя гады, праведзеныя ў рабочай блузе, тыя гады спецыяльнай навукі за страчаныя зусім не лічу: наадварот, набыў карысны досвед, бо навучыўся працаваць сам і цаніць працу іншых, разумець псіхалогію рабочых, падуладных і залежных людзей, і таму лепей разумець абавязкі працадаўцаў, у шэрагі якіх сам хутка меўся стаць», — пісаў Вайніловіч у сваіх успамінах.

Пазней былі падарожжы па Еўропе разам з роднымі і сябрамі: Вена, Інсбурк, Венецыя, Рым, Фларэнцыя, Гановер, Дрэздэн, лекцыі ў Сарбоне ды «Каледж дэ Франс» у Парыжы, салоны ды тэатры. У 1872-м Вайніловіч паехаў у Прушкаў у прускай Сілезіі, дзе стаў слухачом курсаў сельскагаспадарчай акадэміі — гэта была воля паміраючага бацькі, каб сын навучыўся працаваць на зямлі па еўрапейскіх стандартах ды рэалізаваў свае веды на Радзіме.

## Прапанова Сталыпіна, ад якой... можна адмовіцца

На Радзіме Вайніловіч стаў сапраўдным адмыслоўцам у галіне сельскай гаспадаркі, замацоўваючы тут досвед, засвоены ў Заходняй Еўропе. У 1878-м ён уступіў у Мінскае таварыства сельскай гаспадаркі, затым зрабіўся яго віцэ-старшынёй і, нарэшце, старшынёй. Менавіта дзякуючы яму таварыства стала ўзорным у рэгіёне, на якое раўняліся іншыя арганізацыі рэшты губерняў Паўночна-Заходняга краю.

Не дзіўна, што ў 1906-м Вайніловіч атрымаў прапанову стаць намеснікам міністра земляробства ўсёй Расійскай імперыі. Аўтарам прапановы быў ніхто іншы, як Пётр Сталыпін, які марна спрабаваў перабудаваць агромністую імперыю, якая знаходзілася на парозе рэвалюцыі, на капіталістычны манер. Вайніловіч адмовіўся: ягоныя інтарэсы былі тут, у сваім краі.

## Дапамагаў бежанцам, габрэям ды татарам

Добра засвоіў у сваім жыцці Вайніловіч і яшчэ адну таямніцу поспеху: каб нешта браць, трэба і аддаваць. Дабрачынныя праекты сталі акурат тым фактарам у ягонай асабістай гісторыі, дзякуючы якому ён увойдзе ў гісторыю нацыянальную. Найбольш вядомы ягоны праект — гэта, безумоўна, касцёл святых Сымона і Алены, альбо Чырвоны касцёл, у Мінску, збудаваны як памяць пра заўчасна памерлых дзетак: 12-гадовага Сымона і 19-гадовую Алену.

Пры гэтым Вайніловіч быў унікальным прыкладам рэлігійнай талерантнасці, бо даваў грошы таксама і на праваслаўныя цэрквы, — напрыклад, зафундаваў Георгіеўскую царкву ў вёсцы Макраны, стаўся заснавальнікам камітэта абароны правоў габрэяў і татараў у Клецку. Міжканфесійны мір у краі быў для яго першасным за рэлігійныя, нацыянальныя і палітычныя спрэчкі.

Цяжка ўзгадаць, на якую сферу грамадскага жыцця Вайніловіч шкадаваў грошай: на ягоным рахунку і будаўніцтва камерцыйнага вучылішча ў Слуцку, і арганізацыя безлічы выставаў сельскай гаспадаркі, падчас Першай сусветнай — дапамога бежанцам і ахвярам вайны. Дарэчы, цягам той вайны ён арганізоўваў дагляд за прыватнымі гаспадаркамі Міншчыны ды перахоўваў эвакуяваную пародзістую жывёлу — і тут да пытання падышоў без эмоцыяў, па-гаспадарску.

Ці не апошнімі ягонымі дабрачыннымі праектамі ў Беларусі былі фінансаванне Беларускага нацыянальнага камітэту ў Мінску ў 1917-м ды Літоўска-беларускай дывізіі ў складзе польскага войска ў 1918-м, якая мелася абараніць краіну ад нашэсця бальшавікоў.


32. IX. 1963
EDWARD WOYNIŁŁOWICZ

WSPOMNIENIA
1847-1928
CZĘŚĆ PIERWSZA

WILNO · 1931 · R.

Тытульная старонка мемуараў Вайніловіча з Пагоняй і Арлом

## Чаму сварыўся з «бацькамі» БНР?

У сваіх мемуарах Вайніловіч адзначаў, што род ягоны паходзіць з «беларускіх баяраў», чытай, з «беларускай шляхты». Паводле светапогляду ён заставаўся прыхільнікам «краёвасці», пра што гучна заявіў у 1907-м, калі стаў старшынёй Краёвай партыі Літвы і Беларусі, якая патрабавала аўтаноміі для нашых земляў у складзе імперыі. У 1918-м ён выступіў з ідэяй адраджэння Вялікага Княства Літоўскага, што на той момант зусім не здавалася фантазіяй — такія думкі агучвалі і сам Пілсудскі.

Што ж наконт беларускага руху? Вядома, Вайніловіч яму сімпатызаваў, даючы грошы на культурныя праекты, маючы асабістыя знаёмствы сярод беларускіх дзеячаў, ведаючы мову. Адзінай праблемай, якая, відаць, і не дазволіла яму сысціся з маладымі беларускімі палітыкамі, быў іхны... сацыялізм. Пра гэта Вайніловіч таксама разважаў у сваіх мемуарах, згадваючы са скрухай, што кожная сустрэча з дзеячамі заканчвалася аднолькава негатыўна, калі размова заходзіла аб прыватнай маёмасці.

Разам з тым, ягоным пратэжэ і «палітычным вучнем» быў землеўласнік Раман Скірмунт, прэм'ер-міністр БНР, які — ці не адзіны — выступаў за тое, каб нованароджаная рэспубліка развівалася ў капіталістычным рэчышчы. На жаль, адстаўка Скірмунта і канчатковая перамога сацыялістаў для Вайніловіча былі непрыемным ударам і фактарам асабістага расчаравання ў БНР.

Нягледзячы на палітычныя разыходжанні, падтрымаў Вайніловіч і случчакоў, якія ў лістападзе 1920-га правялі «Беларускі з'езд Случчыны» ў ягоным прыватным доме. Ці фінансаваў Вайніловіч непасрэдна ўдзельнікаў Слуцкага Збройнага Чыну? Невядома. Але калі б такія факты ўсплылі — наўрад ці б нехта здзівіўся. Прынамсі, гэта б цалкам уклалася ў жыццёвую філасофію Вайніловіча: «заўжды падтрымліваць сваіх, нават калі не супадаюць веравызнанне альбо палітычныя погляды».

## «Свой сярод чужых...»

Вайна, рэвалюцыя, бальшавіцкае нашэсце і, як вынік, Рыжская дамова для Вайніловіча сталіся катастрофай. Праца ўсяго ягонага жыцця, эканамічныя і дабрачынныя праекты па развіцці і адраджэнні краю пайшлі прахам. Пазіцыю польскіх палітыкаў, паводле якой Міншчына мелася застацца «на водкуп» бальшавікам, ён успрыняў як здраду. Савічы, маёнтак Вайніловіча, быў разрабаваны, сямейныя архівы знішчаныя... Разам з чальцамі сям'і ён не меў іншага выбару, як прыняць польскае грамадзянства ды з'ехаў у Быдгаш.

Да канца жыцця ён быў прыхільнікам беларуска-польскай федэрацыі, выступаў супраць паланізацыі беларускага насельніцтва на «Усходніх крэсах», за вяртанне інтэлігенцыі ды эліты Заходняй Беларусі да беларускай ідэнтычнасці, але — выключна ў еўрапейскім культурным ключы. Вайніловіч быў «сваім сярод чужых, чужым сярод сваіх»: чужым для зацятых палякаў, якія бачылі Беларусь выключна як прыдатак да Польшчы, чужым для беларускіх сацыялістаў, для якіх ён быў адно «панам» і «польскім землеўласнікам»... У гэтым ягоная асабістая трагедыя і, адначасна, трагедыя агульнабеларуская, калі галасы сапраўдных патрыётаў і гаспадароў заглушаюць крыкі папулістаў і мройнікаў.

Памёр Эдуард Вайніловіч у 1928 годзе ў Быдгашы, дзе і быў пахаваны. У 2006-м труна з ягонымі парэшткамі была ўрачыста перапахаваная ў Чырвоным касцёле ў Мінску, дзе знаходзіцца і дагэтуль.







# Палессе Паўла Куніцкага

Алена ЛЯШКЕВІЧ

**У пінскім Музеі Беларускага Палесся 16 чэрвеня адкрылася выстава мясцовага фатографа Паўла Куніцкага, якая дазваляе ўбачыць штодзённае жыццё вёскі Кудрычы, знакамітай сваёй архаічнай архітэктурай.**



**У Кудрычах на сёння — 12 жыхароў. Але вёска не губляе папулярнасці сярод турыстаў і фатографаў ужо амаль 100 гадоў**



Найбольшую вядомасць вёска Кудрычы Пінскага раёна набыла дзякуючы чаротавым стрэхам, якіх сёння ўжо не пабачыш у іншых мясцовасцях, прынамсі ў такой колькасці ў адным месцы.

У Кудрычах на сёння — 12 жыхароў, пераважна сталага веку. На ўсю вёску — адна карова, некалькі коней. Няма ніякай працы, калгас далёка, моладзь раз'ехалася. Будынкі, крытыя чаротам, паступова разбураюцца, але вёска не губляе папулярнасці сярод турыстаў і фатографаў ужо амаль 100 гадоў.

Адной з першых адкрыла Кудрычы свету амерыканская географка Луіза Арнэр Бойд, якая наведала Палессе з экспедыцыяй у 1934-м, шукаючы «экзотыку сярод балот», а ў 1937-м выдала ў Нью-Ёрку фотаальбом «Польская правінцыя».

Павел Куніцкі здымае Кудрычы амаль 10 гадоў. Вёска месціцца ў рэчышчы Ясельды. Па словах фатографа, «калі талая вада выходзіць з берагоў, то там — як у Венецыі: ад хаты да хаты можна дабрацца толькі чоўнам. У 1980-х туды пабудавалі дарогу, а да таго сувязь з горадам была выключна па вадзе — па Ясельдзе, па Прыпяці».

Папярэдняя фотавыстава Куніцкага была прысвечаная, паводле словаў творцы, «нашаму, простаму Палессю. Там былі не гарадскія пасёлкі і не аграгарадкі, а насельніцтва маленькіх вёсачак, што выміраюць, незвычайная прырода, людзі і іх побыт, твары, асобы…»

У выставы пра Кудрычы фактычна тая ж тэма, што і ў папярэдняй — Палессе — але раскрытая на матэрыяле ўсяго адной вёскі, якая захавала да сённяшняга дня свае аблічча сярэдзіны XX стагоддзя.

На погляд Паўла Куніцкага, такая архаіка тлумачыцца рацыянальна: «Добра крытая чаротавая страха служыць 70 гадоў. Навошта мяняць на шыферную, калі яна не цячэ? Чарот — вельмі надзейны матэрыял: узімку трымае цеплыню, улетку — прахалоду. Канечне, жылыя будынкі разбураюцца, гаспадары памерлі, іх няма каму даглядаць. А на гаспадарчых пабудовах чаротовых стрэхі захаваліся ў большай ступені».

Выставу можна паглядзець да восені. Павел Куніцкі плануе выдаць па яе выніках фотаальбом.

**Фота Паўла Куніцкага**



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/190 ад 30.04.2004. Замова №586

Падпісана да друку 23.06.2017. 8.00. Наклад 3000 асобнікаў. Кошт свабодны.